У нумары
- Няміга, "Макдональдс"... Пытанні застаюцца
- ТБ: "Усё нармальна, мама"?
- Словы, слоўнікі, славяне...
- В. Кандзінскі: шлях да абстракцыі
- Заклік да пільнасці Умберта Эка
- Містыка... Рэальнасць...




З 1 па 4 кастрычніка ў Брэсце адбудзецца Міжнародны тэатральны фестываль "Белая Вежа". Поспехаў удзельнікам і гледачам!

# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 37 (350) 26 верасня —2 кастрычніка 1998 г. КОШТ 3500 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ •

**Кітай...** *Старажытны і вечна малады... Банальныя словы, але ў дачыненні да гэтай вялікай краіны інакш і не скажаш. А вось новаму Кітаю — Кітайскай Народнай Рэспубліцы — Чжунхуа Жэньмінь Гунхэга — 1 кастрычніка споўніцца толькі 49 гадоў!*
*Менавіта ў гонар гэтай даты ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі кітайскай Амбасадай у РБ на чале з Надзвычайным і Паўнамоцным паслом КНР у нашай краіне пані У.Сяочу наладжана вялікая выстава пад назвай "Традыцыйны кітайскі жывапіс".*

# "...ТО МЛЕЧНЫ ШЛЯХ УПАЎ З НЯБЁСАЎ"

Магчыма, назва трошкі сухаватая, бо экспазіцыя, што складаецца з твораў кітайскіх мастакоў пачынаючы ад дынасты Тан (VII — X стст.) да цяперашняга часу, напоўнена надзвычай светлай лірыкай, далікатнасцю фарбаў, лінейнага малюнка і непаўторным водарам гісторыі.

Традыцыйны кітайскі жывапіс — гэта жывапіс у выглядзе скруткаў. Ёсць доўгія гарызантальныя скруткі для разгляду на стале. І вертыкальныя — "цяо-фу" — з выявамі пейзажаў, жанравых і дэкаратыўных сцэн. Менавіта яны і прадстаўлены ў экспазіцыі.

Да скруткаў у Кітаі ставіліся як да найвялікшай каштоўнасці і захоўвалі іх у прыгожых інкруставаных футаралах. А ў святочныя дні іх вывешвалі на сцэны, каб палюбавацца ў спакойным сузіранні.

(Заканчэнне на стар. 8-9)



Сюй Бэхун. "Конь, які скача".



Ці Байшы. "Жабка і стралаліст".



У Цзожэнь. "Панды".



Лі Кэжань. "Пастушок грае на бамбукавай флейце".

КАЛОНКА ПРА НАБАЛЕЛАЕ

## ПЕРАСТУПІЎШЫ ПРАЗ...

***У сталіцы, непадалёк ад гандлёвага дома, стаіць царква. Ля яе сядзяць жабракі — жанчыны, мужчыны, дзеці. Не спадзеючыся сваім выглядам абудзіць у прахожых спачуванне (часта гэты выгляд сведчыць не столькі аб нястачы, колькі аб яўных заганах), клічуць на дапамогу Бога: у кінутых пад ногі кардонках, бляшанках, шапках, сярод скамечаных грашовых паперак — абразкі з выявамі Божай Маці. Некаторыя моўчкі прагна ўзіраюцца ў вочы патэнцыйных “фундатараў”, іншыя апантана хрысцяцца і б’юць паклоны.***

**Я жыву побач з царквой, і штодзень мінаю яе па некалькі разоў. Усіх “пастаяльцаў” ужо ведаю ў твар. Зрэшты, час ад часу сустракаю тут і прышлых жабракоў. Але доўга яны не затрымліваюцца: канкурэнцыі не любіць ніхто... Вось “знаёмая” жанчына сярэдніх гадоў. Больш за год яна сядзела ля царкоўнай брамкі з шыльдачкай на грудзях: “Дапамажыце цяжарнай”. Потым змяніла яе на іншую: “Падайце на лячэнне дзіцяці”. А зусім нядаўна яна прасіла грошай на аперацыю з прычыны язвавай хваробы страўніка.**

**Шыльдачкі з тэкстам, які тлумачыць, чаму гэтыя людзі просяць міласціну, ёсць амаль ва ўсіх: адчуваюцца патугі надаць непрывабнай сутнасці свайго ўчынку нейкую больш-менш прыстойную форму. Значыць, яшчэ мае месца ў душах гэтых людзей нейкае ўяўленне аб маральных нормах, якія не дазваляюць адкрыта дэманстраваць сваё ўбоства. У іх разуменні гэта выглядае прыкладна так: прасіць міласціну можна, у гэтым няма нічога дрэннага, калі на тое ёсць прычыны. Без прычыны — сорамна. І вось, як правіла, хтосьці ходзіць па вагонах электрычак і слёзна сцвярджае, што яго абрабавалі і няма за што дабрацца дадому (у Расію, Казахстан — некуды далёка), іншы просіць на лячэнне. А лепш за ўсё жабраваць, трымаючы на руках мурзатае дзіця, — дзяцей шкадуюць усе. І той, хто просіць, і той, хто дае, ведаюць, што гэта толькі фарс, гульня, у якой адны выконваюць ролю жабракоў, а другія — дабрадзеяў. Канешне, бываюць выключэнні. Ёсць людзі, якіх вымушае прасіць міласціну непадманны адчай. Але іх — адзінкі. Сапраўдная галеча сарамлівая. Яна не любіць, калі яе агаляюць. Жабраваць пойдзе той, хто змог пераступіць праз ШТОСЬЦІ ў сабе...**

**Многіх сучасных жабракоў выгнала на вуліцу не беднасць, а прага “халяўнай” нажывы, гімн якой ва ўсю моц услаўляў рык “мерсэдэсаў” і “джыпаў”, якімі рулілі нашы дамарослыя нуварышы. Сумленнай працай не пабудуеш каменных палацаў! — раўлі маторы. І гэта ўспрымалася наваяўленымі “прыніжанымі і зняважанымі” як заклік да дзеяння. Хоць каліўца адхапіць ад пышнага караваю, які выпаў на долю найбольш хваткіх і найбольш цынічных дзядзькоў, займеў жаданне цэлы рой худасочных грамадскіх і дзяржаўных арганізацый, якія да таго часу ўжо адчулі смак жабрацтва праз атрыманне гуманітарных падачак з-за мяжы. І высокія дзяржаўныя мужы, пераступіўшы праз ШТОСЬЦІ ў сабе, што працівілася гэтаму, не толькі не лічылі для сябе ганебным “павіляць хвастом” перад іншаземнымі ракфелерамі і выбіць для бедных суайчыннікаў чарговую падачку, але і ганарыліся гэтым. І “чэсная” журналісцкая брація, задушыўшы ў сабе ШТОСЬЦІ, што дазваляла бачыць рэчы такімі, якія яны ёсць, пачала ва ўнісон усхваляць кожную чарговую падачку з-за мяжы, хай гэта куча зношанай бялізны з дзіркамі на рукавах. Гаворка не аб тых людзях, якія ад шчырага сэрца неслі сваё зношанае адзенне, каб ратаваць распранутых і галодных. Гаворка пра нас з вамі, без сораму дэманструючых сваю галізну ўсяму свету. Ці задумваўся хто з нас, што, атрымліваючы такім чынам незаробленае, мы раплачваемся ўласнай знявагай? Калі хто і задумваўся — маўчалі. Моўчкі прынялі правілы, якія абвяшчалі, што проста так прасіць сорамна. Павінна быць прычына. А прычына ў нас нібыта важкая — Чарнобыль. Але не Чарнобыль развіў у нас пачуццё ахвяры і жабрака, якое з нашай “славутай” памяркоўнасцю ўжо стала візітнай карткай беларуса. А што? Давайце моўчкі зазірнем у сваю душу...**

**Алесь ФІЛІПОВІЧ**

# НЯМІГА ХУТКА БУДЗЕ Ў “ДРАЙВЕ”?..

***“Макдональдс” на Нямізе. Згадзіцеся, гучыць неяк недарэчна. На Нямізе, найбольш адметнай і тужлівай мясціне ў гісторыі Мінска, якая ўвабрала ў сябе багата крыві і слёз, пачынаючы з легендарнага паходу князя Ігара і заканчваючы фашысцкай акупацыяй, калі тут праходзіла мяжа яўрэйскага гета, пусціў свае карані рэстаран. Я нічога не маю супраць “біг-макаў” і іншых “гамбургераў”, калі б...***

З мэтай высветліць гісторыю стварэння наваяўленага будынка я завітаў у творчую майстэрню архітэктара Сяргея Сцяпанавіча Мусінскага — аўтара праекта будаўнічага комплексу “Няміга”. Прызнацца, не ў малой ступені мной рухала асабістая зацікаўленасць, бо воляй лёсу я аказаўся жыхаром дома № 12 па згаданай вуліцы, і толькі па шчаслівай выпадковасці пазбаўлены магчымасці штодзень з ранку да вечара сузіраць новабудоўлю іншаземнага гіганта, бо вокны маёй кватэры выходзяць на іншы бок. “Табе сапраўды ў гэтым пашчасціла, — уздыхнуў Сяргей Сцяпанавіч. — А мяне кожны раз кідае ў дрыжыкі, калі гляджу на гэтую архітэктурную “славутасць”.






Будаўніцтва архітэктурнага комплексу “Няміга” было распачата без малога два дзесяткі гадоў таму, яшчэ пры Пятры Міронавічы Машэраве. Усё ішло як мае быць, без якіх бы то ні было інцыдэнтаў і перашкод. Але з цягам часу заключны аб’ект дадзенага праекта пачаў “скакаць”. Першапачаткова меркавалася пабудаваць звычайны невялікі рэстаран. Потым — рэстаран-вар'етэ, аднак яго заказчыкі-прадпрымальнікі раптоўна абанкруціліся. На некалькі гадоў аб’ект быў замарожаны. І тут на даляглядзе з’явіўся ўсюдыісны “багаценькі Бураціна” “Макдональдс” і сціпла прапанаваў нарэшце скончыць з гэтай зацягнутай будадысеяй. У канцы 1996 года Мінгарвыканкам даў “дабро”.

Як прызнаўся мне С.Мусінскі, хаця і не ўхваляў ён дадзенага рашэння, але — з начальствам не спрачаюцца. Ён добрасумленна зрабіў праект новага будынка, які неўзабаве быў ухвалены на Горадабудаўнічым савеце — неабходная працэдура, якой падлягае любая праектная дакументацыя. Паводле праекта, будынак меўся быць невялікі, двухпавярховы, каб арганічна ўпісацца ва ўвесь архітэктурны ансамбль. Але прадстаўнікі іншаземнага прадпрыемства, убачыўшы на паперы сваё будучае дзецішча, ледзь не пакаціліся ад смеху: не чакалі яны такой наіўнасці ад спадара Мусінскага. Ім патрэбны быў сапраўдны палац, які б засланіў сабой усе навакольныя пабудовы, а не нейкая несамавітая забягалаўка. Прапанова перарабіць праект наноў была рашуча адхілена. Тады “макдональдцы” грукнулі дзвярыма і, упэўненыя ў сваёй усемагутнасці, зніклі ў невядомым накірунку.

Варта адзначыць, што, паводле Закону Рэспублікі Беларусь аб аўтарскіх і сумежных правах, праектаваннем рэстарана “Макдональдс” на Нямізе маглі займацца калі не сам С.Мусінскі, то іншыя праектна-архітэктурныя арганізацыі, але толькі з ягонай згоды і з улікам яго заўваг. Таксама заўважым, што ў дадзеным выпадку на кон былі пастаўлены даволі вялікія грошы: калі ад айчынных заказчыкаў праекціроўшчыкі атрымлівалі ў “зайцах” ад 1,5 да 3 працэнтаў агульнага кошту праекта, дык ад замежнай арганізацыі — 9 працэнтаў “зялёных”. І вось нашыя замежныя “інвестары”, цалкам ігнаруючы С.Мусінскага, заключаюць дамову з загадкавай “майстэрняй № 7”. Лішне казаць, што новастворанай праектнай дакументацыі было адмоўлена на Горадабудаўнічым савеце і, натуральна, яна не прайшла неабходную экспертызу. Тым не менш, будаўніцтва рэстарана пачалося і, як бачна, не сёння-заўтра завершыцца.

Не цяжка ўявіць, што адчуваў Мусінскі, назіраючы, як вынік яго шматгадовай працы блякне на вачах з-за нейкага, здавалася б, нязначнага “гузіка”. І выдатны спецыяліст, чалавек у гадах, які ўсё жыццё добрасумленна шчыраваў на карысць роднага горада, апантана кінуўся на пошукі справядлівасці. Аб яго “блуканнях па пакутах” красамоўна сведчыць вялізная папка з дзесяткамі разнастайных дакументаў. Сяргей Сцяпанавіч звяртаўся ў Беларускі саюз архітэктараў, Мінгарвыканкам, Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый, у шэраг іншых высокіх інстанцый. І, звычайна, атрымліваў станоўчыя адказы. Аднак па нейкіх прычынах гэтым усё і заканчвалася. “Макдональдс” па-ранейшаму рос, на лес гледзячы.



Для многіх ужо не сакрэт, што архітэктар С.Мусінскі толькі ўзначальвае спіс людзей, якія апынуліся (і яшчэ апынуцца) заложнікаммі “Макдональдса”. На чарзе — жыхары дома № 14, вокны і лоджыі якіх выходзяць (каб не сказаць — на вуліцу) на новабудоўлю. Макдональдцы дамагліся свайго: узводзіцца сапраўды вялізны палац, які засланяе сабой ажно шэсць паверхаў жылога дома па тым баку вуліцы. Пэўна ж, аб тым, што іх чакае падобны краявід, жыхары адпаведных кватэр і не

снілі. Але галоўны "сюрпрыз", запланаваны "Макдональдсам", які пазбавіць іх жадання не толькі пазіраць у вакно, але і высоўвацца на лоджыю, яшчэ наперадзе. Акурат унізе, паміж сценамі рэстарана, дома і будынка "Белавія" застаецца незапатрабаванай невялікая пляцоўка. Першапачаткова, па праекце Мусінскага, тут адзін раз на суткі павінна была адбывацца выгрузка адыходаў. Новым "праекціроўшчыкам" гэта падалося немэтазгодным у фінансавых адносінах, і яны вырашылі адкрыць тут "лініюдрайв" — для згаладалых аўтамабілістаў: прытармазіўшы ля аднаго акенца, апошнія робяць заказ, ля другога — праз некалькі метраў — атрымліваюць ежу. Ужо падлічана, што за хвіліну будуць абслугоўвацца чатыры машыны. Інакш кажучы, уніз па Раманаўскай слабадзе з ранку да вечара на мінімальнай хуткасці будзе рухацца паток аўтамабіляў, заварочваць на вугал "Белавія" ў "драйв", дзе будзе адбывацца няхітрая аперацыя "заказ — грошы — біг-мак", і вырульваць з-за вугла "Макдональдса"... проста на скрыжаванне вуліц Няміга — Гарадскі вал — Раманаўская слабада. Мае спачуванні супрацоўнікам ДАІ. А нам з вамі, паважаныя жыхары (асабліва дома насупраць), наведнікі "Нямігі" і выпадковыя прахожыя, не пашкодзіць набыць процівагазы. Бо гэтая "лінія-драйв" ( а ў тым, што яна з'явіцца, я амаль не сумняваюся) і прылеглыя да яе адрэзкі вуліц будуць нагадваць ачаг масавага паражэння выхлапнымі газамі. Суцяшае адно, што перад тым, як сесці за руль, аўтамабілісты па звычцы папярэдне паклапоцяцца аб сваім страўніку. Хаця, як вядома, на лаўца і звер бяжыць.

Але ў першую чаргу спачування заслугоўвае сам архітэктурны ансамбль "Няміга". Мала таго, што грувасткі будынак рэстарана сказіў яго цэласнасць і відовішчнасць (каб гэта заўважыць, не трэба быць спецыялістам), дык яшчэ і не дазволіў давесці да канца запланаваныя згодна з праектам будаўнічыя работы левага крыла комплексу. У прыватнасці, меркавалася пабудаваць тут, як і з правага крыла, прыступкі і, такім чынам, зрабіць другі паверх комплексу прахадным. Сёння гэта немагчыма, бо ў такім выпадку спатрэбілася б разабраць частку "Макдональдса". Так што людскі паток, рухаючыся па другім паверсе "Нямігі" і апынуўшыся ў левабаковым тупіку, вымушаны будзе паварочваць назад да выхаду. І гэта будзе нават не паток, а вірлівае людское мора, бо толькі "Гандлёвы дом на Нямізе" штодзень наведваюць каля 50 тысяч чалавек.

Што і казаць, "унікальнасць" дадзенага "праекта" выклікае нямала пытанняў...

**Алесь ГАЛІШНІКАЎ**

# ГЭТА ЛІЧЫЛАСЯ ДЗІВАЦТВАМ

***У сценах Рускага акадэмічнага тэатра імя М.Горкага ствараецца... тэатр. Але не звычайны, а — энергетычны.***

Зрэшты, зварот да тонкіх энергій, да Бога, пошукі новых адпаведных формаў, усё тое, што зусім нядаўна лічылася дзівацтвам, вычварэннем і цалкам адмаўлялася цэнзурай, пакрысе знаходзіць сваё натуральнае адлюстраванне ў мастацтве і, па вялікім рахунку, становіцца адметай дня сённяшняга. Успомнім, напрыклад, які вялікі рэзананс выклікала віцебская энергетычная вежа. Што і казаць, многія людзі яшчэ з насцярогай ставяцца да тэрмінаў кшталту "духоўная энергетыка". "Што гэта такое?" Адказам будзе наведванне храма. Менавіта атмасфера храма, тая, што панавала на спектаклі "Блаславі, Госпадзі", які праходзіў на сцэне Рускага тэатра і, безумоўна, меў вялікі поспех, і спарадзіла ў мастацкага кіраўніка Барыса Луцэнкі ідэю стварыць тэатр энергетычны. Духоўная музыка, прыгожыя галасы, таямнічае дзейства, мяккае святло і нават спецыяльна закладзеныя энергетычныя камяні, на думку Б.Луцэнкі, будуць садзейнічаць таму, што гледач зможа не толькі цалкам расслабіцца, забыць пра ўласныя штодзённыя клопаты, зазірнуць у сваю душу і наблізіцца да Бога, але і атрымаць вялікі энергетычны зарад. З гэтай жа мэтай, як адзначыў галоўны мастак Рускага тэатра і дызайнер энергетычнага Уладзімір Чарнышоў, усе 40 месцаў будуць размешчаны не радамі, а хаатычна, як бы ізаляваныя адзін ад аднаго (мелася нават задума, каб усе крэслы былі розныя). "Чалавек прыходзіць у жыццё, сыходзіць з яго — адзін, — па-філасофску кажа ён. — Усё астатняе — другаснае. І таму галоўная канцэпцыя энергетычнага тэатра — даць магчымасць гледачу адчуць сваю індывідуальнасць у гэтай неабсяжнай прасторы".

На жаль, цяжка сказаць, калі дадзены таямнічы тэатр адчыніць дзверы перад сваімі наведнікамі. Трэба сапраўды "загарэцца" такой ідэяй, каб, нягледзячы на становішча, у якім апынулася наша тэатральная гаспадарка, мець сілы і мужнасць не толькі ўтрымацца на паверхні, але і даць жыццё новаму і, як бачна, цікаваму і патрэбнаму праекту. Рэалізацыя апошняга доўжыцца ўжо не адзін год. Міністэрства культуры нарэшце пайшло насустрач — абяцала выдзеліць нейкія сродкі. У тым крыле тэатра, дзе знаходзіцца карцінная галерэя, ужо з'явілася сцэна. Справа за "малым" — надаць ёй належны выгляд.

**Алесь ФІЛІПОВІЧ**

# АЛЕГ ЕЛІСЕЕНКАЎ МУЗЫКУ НЕ ТОЛЬКІ ПІША, АЛЕ І... ЗДЫМАЕ

***Прычым, здымае не толькі на тэлестужку, але і з тэлеэфіру. Бо ўзначальвае рэдакцыю музычных і забаўляльных праграм Беларускага тэлебачання.***



***Калі б мне раней сказалі, што Алег Елісеенкаў стане чыноўнікам-кіраўніком, ніколі б не паверыла. Для мяне ён найперш творца, чыё мастацтва аздоблена мноствам нечаканых паваротаў. Незабыўнае ўражанне пакінула яго Трэцяя сімфонія, а вытанчаныя камерныя творы і дасюль успрымаюцца чароўнымі скарбоначкамі, поўнымі дзівосных каштоўнасцяў. Мастацкі глыбокія і адначасова эмацыйна шчырыя, артыстычныя тэлеперадачы, якія ён рабіў пра сваіх калег-кампазітараў, вымушалі бачыць у ім будучую зорку-тэлевядучага. Але ж сяброўства з Аляксандрам Саладухам канчаткова "давяло" кампазітара да песні. Разам з песнямі замігцелі фестывалі, конкурсы, канцэрты, новыя і новыя выканаўцы. І раптам — новая пасада. Ды замест белых кашуль, як меркавалася рэкламнай "цёткай Асяй", з'явіліся ўсё новыя песні. А знешні імідж застаўся тым жа — "джынсавым".***

**— Алег Мікалаевіч! Прайшоў год, як вы на адказнай пасадзе галоўнага рэдактара. А тое, што гэты тэрмін суправаджаецца вашым аўтарскім канцэртам, падкрэслівае: часу вы не марнавалі.**

— За гэты год новых песень менш не стала: некаторыя ўзніклі проста ў гэтым кабінеце. Бачыце паперы на стале? Гэта ўсё новыя вершы. Вось так пасяджу-пасяджу, кіну на іх вока — і раптам з'явіцца мелодыя.

**— Я звярнула ўвагу не толькі на паперы, але і на вашу "выставу дасягненняў", што размесцілася на кніжнай паліцы.**

— Гэта тыя касеты, што мне дорага. Часопісы з фотаздымкамі нашых артыстаў і супрацоўнікаў тэлебачання: Алены Спірыдовіч, Элеаноры Язерскай, паэтэсы і рэжысёра Алены Туравай, каляндар са "Славянскага базару" з партрэтам Ядвігі Паплаўскай. Я спецыяльна зрабіў гэты "рэкламны стэнд", каб рэкламаваць беларускую артыстычную эліту.

**— Але ж вы рэкламуеце беларускіх музыкантаў не толькі на вашым стэндзе, а, галоўнае, у эфіры.**

— За гэты год, сапраўды, на БТ з'явілася шмат новага. Я намагаўся, каб больш было беларускай музыкі. Гледачы, безумоўна, больш рэагуюць на песенны жанр, таму я і падтрымліваю яго, зрабіўшы крок насустрач беларускай мове. З'явіліся спецыяльныя праграмы, прысвечаныя беларускім песням.

**— Вярнулася праграма "Песню бярыце з сабою", якая ўжо некалькі гадоў не ішла па тэлебачанні.**

— Я вярнуў тэлефестывалю гэтую назву, каб падкрэсліць сувязь часоў. Сапраўды, тэлефестываль "Песню бярыце з сабою" заўважылі — яшчэ і таму, што мы яго праводзілі за межамі Мінска. Трыумфальнымі былі выезды ў Пінск і Жлобін. Амаль чатырохгадзінныя канцэрты ішлі "на біс". З артыстаў было толькі некалькі "зорак". Усе астатнія — маладыя, яшчэ не вядомыя.

**— Другая перадача — гэта "Прэм'ера песні", якая таксама ўспрымаецца як працяг традыцыі. Бо раней яна існавала паралельна на радыё і тэлебачанні, як і зараз.**

— Увогуле, шмат увагі надаецца вяртанню да нашых вытокаў. Менавіта гэтаму прысвечаны цыкл "Запрашэнне". Адна ягоная палова, якую вядзе Валерый Дайнека, прысвечана тым, хто ствараў беларускую эстраду. Другая палова ("Вечары з Галінай Хаймінавай") робіцца на аснове акадэмічнай музыкі, але ўсе сусветныя прыклады ідуць у параўнанні з беларускімі аналагамі. Задача гэтай перадачы паказаць, што і зараз у нашым мастацтве ёсць чым ганарыцца. Нарэшце, адкрыўся цыкл "Спеўнае поле" (вядучы — народны артыст СССР Віктар Роўда). Тут я не арыгінальны, бо скарыстоўваю вопыт сусветнай практыкі, калі для вядзення тэлепраграмы запрашаюць людзей з вядомымі імёнамі, каб прыцягнуць увагу яшчэ і імем вядучага. Не пазней, чым з Новага года, плануецца адкрыццё цыкла "Джаз уначы".

**— Гэта тыя праграмы, якія вы адкрылі. А здаралася, каб вы нешта, наадварот, закрывалі, здымалі з эфіру?**

— Так, я магу сказаць "не", асабліва новай песні. Але пры гэтым заўсёды падкрэсліваю, што можна палепшыць. Таму не столькі я здымаў, колькі намагаліся зняць мяне. Асабліва многа крытычных лістоў і ананімак было ў першыя месяцы маёй працы: пісалі незадаволеныя прадстаўнікі артыстычных колаў. Я ўспрымаў гэта як праверку мяне на трываласць і намагаўся быць незалежным ад усялякага ціску. Чым чалавек менш таленавіты, тым больш ён пачынае націскаць на свае сувязі, гучныя імёны. Быў нават адзін момант, калі я сапраўды збіраўся пайсці з гэтай пасады. Калі ж вырашыў не здавацца, у мяне ўзнікла думка, што зараз мяне самога "уйдут". Ды ўсё ж потым "пена" сышла, мяне падтрымалі нават самыя высокія інстанцыі. Але ж над новай пасадай яшчэ доўгі час жартавалі калегі і сябры. У праграме "Акалада" ўвогуле быў рэфрэн: "Мы музыку не пішам, мы яе здымаем".

**— Што ж сёння засталося самым цяжкім?**

— Працаваць псіхатэрапеўтам. Вакол дарослыя людзі, але часам узнікае адчуванне дзіцячага садка, бо ўсім артыстам уласцівы хваробы творчых людзей. Усе хочуць быць прызнанымі, хочуць, каб іх удачы заўважаліся. За гэты год я зразумеў, што трэба быць яшчэ больш уважлівым да людзей, больш добрым, спагадлівым, намагацца іх зразумець. Але ж як зрабіць баланс, каб яшчэ і цябе разумелі, вось гэта я не ведаю!

**Гутарыла**
**Надзея БУНЦЭВІЧ**

**Сем вечароў з БТ**

# УСЯ СПРАВА Ў ФОРМЕ?

***Працягваючы "адсочваць" перадачы БТ з дня ў дзень, хутка заўважаеш пэўную дынаміку: ад вельмі сур'ёзных — да не вельмі, альбо — да так званых забаўляльных. Пасля "Вяскоўцаў" — тыповых справаздач раённага маштабу, народжаных у "застойныя часы", "Землякоў", — тых жа справаздач, толькі са святочным адценнем, у праграме з'яўляюцца "Абібок", "Усё нармальна, мама"", ток-шоу і нават "Бон тон"! Ведай нашых! І мы не лыкам шытыя!***

Праўда, суботняя раніца яшчэ гранічна дзелавая. Напрыклад, перадачу "На атрыманне Дзяржаўнай прэміі РБ" не станеш глядзець, настроіўшыся на адпачынак, гэтулькі намаганняў трэба прыкласці, каб зразумець, пра якія такія тэхналогіі ідзе гаворка... Ды і ці стане хто яе глядзець у будні? Не будзем спрачацца, гаворка ў ёй ідзе пра вельмі важныя рэчы, але ж на каго яна разлічана? Відаць, што на самых удзельнікаў перадачы ды на працаўнікоў "Інтэграла", пра якіх у ёй гаворыцца. Дык ці варта суботні ранак аддаваць вузка спецыяльнай тэматычнай праграме? Ці не адвесці ёй радок у навучальна-пазнавальным, як, скажам, "Тэлебачанне — школе". Ёсць і іншае выйсце — зрабіць перадачу папулярна-пазнавальнай. Толькі гэта задача для іншых аўтараў, з адукаваным, гаваркім, абаяльным вядучым. Выразумееце, пра што я... Ды пакуль што, відаць, нам гэта не па сілах.

Гэткі ж папрок можна адрасаваць і да найпапулярнай праграмы "Здароўе". Папулярнай на іншых каналах. На БТ і яна вызначаецца вузка прафесійным ухілам. На гэты раз гледача пужалі цяжкімі наступствамі ад курэння тытуню. Прычым паказвалі гэтыя наступствы ў натуральным выглядзе — у анкалагічным дыспансеры. Відаць, каб паверылі!

Ды глядач і так верыць, але ж з перапуду — зноў кідаецца да цыгарэт. Дык ці варта марнаваць стужку і сродкі на паказ бальнічнай палаты замест кароткай, пераканаўчай гаворкі з трапным прыкладам, мо, нават з гумарам? А чаму б і не? Як казаў нехта з вялікіх, адсутнасць гумару сведчыць пра дзіцячы стан літаратуры. Мо, гэта ж можна сказаць і пра наша тэлебачанне?

Не больш забаўляльнай была і наступная суботняя перадача "Адам Міцкевіч і паэзія XX стагоддзя". За гучным загалоўкам хаваўся сухі рэпартаж з практычнай канферэнцыі па творчасці паэта, што адбывалася ў Польшчы, дзе вершы Міцкевіча чыталіся на польскай мове, вядома ж, без перакладу.

За нармальна цікавым канферансам да выступлення замежных артыстаў "Усё нармальна, мама!" мы нарэшце падышлі да нядзельнай праграмы "Бон тон". Але вы памыліліся, калі думалі, што трапіце ў салон графікі Куракінай і што "Бон тон" — звычайны паказ мод, часцей дэманстрацыя адзення з тых каналаў, дзе яе паказваюць круглыя суткі.

Але ж у мінулую нядзелю гэта было штосьці, можна сказаць, шэдэўр! Бодзіарт растоўскіх дызайнераў, перанесены на дзённы беларускі тэлеэкран, выглядаў як непрыстойны шабаш ведзьмакоў і вядзьмарак. Уявіце сабе дзейства, якое суправаджаецца тэкстам: "Дзеля таго, каб прывабіць сексуальнага партнёра, і існуе мастацтва голага пафарбаванага цела, якое пашырае межы полу і мяжуе з эксгібіцыянізмам і садызмам"?!

Дагэтуль пад эксгібіцыянізмам я разумела нешта сорамнае, хвараватае, што не выносяць на вочы іншых людзей. Аказваецца, гэта ідэалогія мастацтва! Азадак з выявамі царквы! Альбо пярсцёнак на пупку! Відаць, пры мностве тэлеканалаў можа быць і такі... Але ж "Пра гэта" і "Імперыя страсці" ідуць на НТВ у начны час. А прапагандаваць эксгібіцыянізм сярод белага дня?!

А можа, гэта была "шокавая тэрапія" для беларускіх гледачоў? Ці проста "мастацкія" практыкаванні рэжысёра Ю.Брэуса? Сярод "прыкольных" праграм (яны ж "адпадныя", "адмарожаныя", не ведаю, як сказаць яшчэ) былі рэпартажы са святаў да Дня ведаў з плошчы Незалежнасці, канцэрта "Рок-правакацыя" і прэзентацыі выставы будаўнічых матэрыялаў. Не буду апісваць тыя дзействы, але ж выглядалі на тэлебачанні яны па-рознаму.

Калі, мяркуючы па "Абібоку", гэта было "адвязнае" начное баўленне часу пэўнай моладдзю, дык у "Каралеўскім паляванні" — начное відовішча з дасціпнымі, разумнымі інтэрв'ю ўдзельнікаў канцэрта. І выбар суразмоўцаў, і стыль гаворкі, і іх падача, нават асвятленне твараў, — усё сведчыла на карысць "Палявання!". Элегантнасць — вось адметная якасць адной са старэйшых праграм, якая, як і раней, трымае форму.

**Р.Б.**



ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# ПАТРЫЯРХ ПРЫЗЯМЛІЎСЯ Ў МІНСКУ




Па запрашэнні Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі нашу краіну ў чарговы раз наведаў Свяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II. Падчас візіту высокі госць мае намер наведаць Мінскую, Віцебскую і Полацкую епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы, а таксама прыняць удзел ва ўрачыстасцях, якія адбудуцца ў Полацкім Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры з нагоды Сусветнага ўзвышэння Крыжа Гасподняга.

**На здымку:** Алексій II падчас аднаго з візітаў на Беларусь.

**Фота Генадзя Жынкова (з архіва "Культуры").**

## ПАГАДНЕННЕ НАПРЫКАНЦЫ ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

23 верасня ў Мінску адбылося падпісанне Пратакола пагаднення аб культурным супрацоўніцтве паміж Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам культуры Кітайскай Народнай Рэспублікі на 1998 — 2000 гг. Змест дакумента шматгранны.У прыватнасці, у 1999 г. пройдуць Дні беларускай культуры ў Кітаі, а ў 2000-м — Дні кітайскай культуры на Беларусі. Прадугледжваецца таксама творчы абмен прафесійнымі, самадзейнымі і народнымі майстрамі ў рамках міжнародных фестываляў; абмен мастацкімі выставамі; усталюецца прамая сувязь паміж бібліятэкамі, якая ўключыць і стажыроўкі бібліятэчных работнікаў абедзвюх дзяржаў і інш.

**Ул. інф.**

## ГУЧАЦЬ ЦЫМБАЛЫ Ў ТЭХНАЛАГІЧНЫМ УНІВЕРСІТЭЦЕ

21 верасня ў актавай зале Беларускага тэхналагічнага універсітэта адбылася лекцыя-канцэрт саліста Дзяржаўнай кансерваторыі цымбаліста Аляксандра Лявончыка.

Арганізавала лекцыю-канцэрт кафедра беларускай мовы універсітэта. У рамках праграмы агульнай культурызацыі — бо тэхнічныя супрацоўнікі таксама павінны і маюць права быць усебакова развітымі асобамі — студэнты гэтай навучальнай установы сустракаюцца з артыстамі, ладзяць канферэнцыі па творчасці беларускіх пісьменнікаў, па народнай творчасці беларусаў. Нядаўна прайшла канферэнцыя, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча.

А на гэты раз Аляксандр Лявончык пазнаёміў студэнтаў з нашым знакамітым народным інструментам — цымбаламі, расказаў гісторыю гэтага інструмента і разам з акампаніятарам — баяністам Анатолем Цяльцовым выканаў творы беларускіх кампазітараў І.Жыновіча, М.Чуркіна, а таксама Брамса, Агінскага, творы кубінскіх кампазітараў і нават прадэманстраваў, як можна выконваць на цымбалах сучасную поп-музыку.

**С.М.**

## "ПАШТАЛЬЁН" ПЕСНІ — 130 ГАДОЎ

"Когда я на почте служил ямщиком" — гэта словы адной з найпапулярных рускіх песень, якая сталася народнай. Сёлета ёй споўнілася 130 гадоў.

Колькі цяпер такіх любімых твораў? І ў кожнага свой лёс, свая гісторыя. Таксама мае сваю незвычайную гісторыю і гэтая песня. "Нарадзілася" яна з народнай гутаркі "Паштальён", якую напісаў знакаміты наш суайчыннік паэт Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч). Што захапляе, дык тое, што гэта быў твор-дэбют.

Напісаны ён па сапраўднай трагедыі, што адбылася пад Мірам, і напісаны ў фальварку Залучча (цяпер Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці).

Пра што "Паштальён" і песня? Ён пра абавязак і пра каханне, пра незвычайныя ўмовы, калі чалавек трапляе ў безвыходную сітуацыю, калі немагчыма дапамагчы, пра смерць каханай жанчыны і пра маральныя пакуты.

Сем разоў вершаванае апавяданне пра гэтую падзею, што адбылася на нашай зямлі, перакладалася з польскай мовы на рускую! І толькі пераклад губернскага чыноўніка з Яраслаўля і паэта Леаніда Трэфалёва, які скараціў і адшліфаваў гэта пералажэнне пад назвай "Ямщик", завалодаў душою рускага народа.

На ўкраінскую мову "Паштальёна" пераклаў М.Старыцкі. Таксама маюцца тры беларускія пераклады гэтага твора пад назвамі:"Ямшчык", "Паштальён", "Паштар", якія зрабілі Янка Лучына, Максім Лужанін і Іван Чыгрын.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**
*Баранавічы*

*У некалькі радкоў*

## ЗНОЎ ПРА "ЗОРНЫЯ ВАНДРОЎКІ"

Вакальна-харэаграфічны калектыў Беларускага універсітэта культуры "Валачобнікі", які існуе на кафедры беларускай народнапесеннай творчасці, у сакавіку наступнага года будзе адзначаць сваё 20-годдзе. Стваральнікам і пастаянным кіраўніком ансамбля з'яўляецца заслужаны работнік культуры Беларусі Станіслаў Іосіфавіч Дробыш. Спачатку рэпертуар гэтага калектыву складалі беларускія народныя песні, потым ён папоўніўся абрадамі (вяселле, жніво, Купалле, Каляды). Зараз жа праграму выступленняў складаюць цэлыя вакальна-харэаграфічныя кампазіцыі "Запрашаем на свята!", "Добры вечар, дзяўчыначка", "Хадзіў-пахадзіў". "Валачобнікі" пабывалі ў Францыі, ЗША, Іспаніі і Польшчы. І, зразумела, за час існавання не раз дэманстравалі сваё майстэрства жыхарам Беларусі. Пры падтрымцы Міністэрства культуры сёлета ў жніўні былі арганізаваны "Зорныя вандроўкі" калектыву па Гомельскім, Чачэрскім, Жлобінскім, Добрушскім, Рагачоўскім, Веткаўскім раёнах, пацярпелых ад Чарнобыльскай катастрофы. На наша пытанне , ці пройдуць "Зорныя вандроўкі" ў наступным годзе, С.Дробыш дакладнага адказу не меў. Пакуль калектыў займаецца падрыхтоўкай вялікай вакальна-харэаграфічнай праграмы да святкавання свайго юбілею.

## ДА ШАСНАЦЦАЦІ І ПАСЛЯ

Малады беларускі рэжысёр Алена Трафіменка, якая скончыла ў 1994 годзе Беларускую акадэмію мастацтваў (лабараторыя В.Турава), прадставіла ў кінатэатры "Піянер" сваю дэбютную поўнаметражную карціну "Падзенне ўверх". Адначасова адбывалася творчая сустрэча з рэжысёрам, арганізаваная клубам "Профіль". Гледачам дэманстраваліся раннія работы Трафіменка — кароткаметражныя фільмы "І яшчэ спяваюць птушкі...", "Ад гэтага..." і "Прысуд". Апошнія — экранізацыі твораў Ж.-П. Сартра і Ф. Кафкі. Новая ж стужка "Падзенне ўверх" апавядае пра хлопца Сцёпу, які пасля аварыі згубіў бацькоў і застаўся інвалідам. Але мара і вера ў яе здзяйсненне дапамагаюць перамагчы хваробу і змяніць сваё жыццё. У галоўных ролях зняліся Саша Захаравіч і Еўдакія Германава. Пасля прагляду карціны адбылося яе абмеркаванне.

## ВІРТУОЗНАЯ ЭКСЦЭНТРЫКА

Прэм'ерай эксцэнтрычнай камедыі па п'есе Дзмітрыя Псафаса "Дурнотнае каханне" 17 верасня адбылося адкрыццё тэатральнага сезона праекта "Віртуозы сцэны". Пастаноўку спектакля ажыццявіў маскоўскі рэжысёр Яўген Валабаеў.

Пасля трагічнай гібелі мужа Сацірыса (А.Бяспалы) маладая ўдава — прыгажуня Уранія (Т.Булгакава) атрымлівае страхоўку. Удава з грашыма не застаецца па-за ўвагай карыслівых мужчын Фаціса (А.Кот) і Карамідаса (А.Астроўскі), якія мецяць у жаніхі. Марыць аб жаніцьбе і Фамас. "Я гатовы чакаць пяць, дзесяць гадоў, колькі будзе патрэбна", — гэта словы чалавека, які аддана і наіўна кахае галоўную гераіню, чаму ўсе лічаць яго дурнем. Але надзеям не здзейсніцца: нечакана для ўсіх муж-нябожчык "уваскрасае". Уранія ўжо не нявеста ля алтара, а абвінавачаная ў зале суда...

Спектакль цікавы не толькі нечаканымі паваротамі сюжэта, але і добрай ігрой акцёраў.

**Іна РАДЗЬКО, Ганна ВАШЧЫЛА**

# "КАБ ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСЬ НАШУ МІЛУЮ, ТРЭБА Ў РОЗНЫХ КРАЯХ ПАБЫВАЦЬ..."

Менавіта гэтыя словы з'яўляюцца дэвізам бюлетэня-газеты "Маланка", якая выдаецца Іркуцкім таварыствам беларускай культуры імя Яна Чэрскага.

Добра вядома, што яшчэ ў XVI-XVII стагоддзях за Уралам пачалі з'яўляцца беларусы, а калі быць больш дакладнымі — жыхары Вялікага Княства Літоўскага. Напачатку як ваеннапалонныя. Потым былі высланыя "палітычныя" — удзельнікі нацыянальна-вызваленчага руху, паўстанняў. Канец XIX стагоддзя, азнаменаваны сталыпінскімі рэформамі, папоўніў беларускія суполкі Сібіры. Беззямельныя беларускія сяляне шукалі лепшай долі. Першая сусветная вайна таксама "дапамагла" павялічыць колькасць беларусаў за Уралам. Далей, як мы памятаем, пайшло раскулачванне, насталі гады сталінскіх рэпрэсій. Вялікая Айчынная вайна была апошнім "вялікім перасяленнем" беларусаў за Урал. Такім чынам, сёння беларускі сібірак, альбо сібірскі беларус, — гэта не выключная з'ява, а, хутчэй, заканамернасць.

Напрыканцы 80-х гадоў сувязь з беларусамі Сібіры была страчана. Аднак 90-я надалі ўпэўненасць у тым, што гэта з'ява выпадковая. У гэтыя гады адбываецца шмат сумесных мерапрыемстваў: сходы беларусаў блізкага замежжа, з'езды беларусаў свету. Дзе ж у Сібіры ёсць беларусы зараз? Найбольш вядомая суполка ў Новасібірску. Тут ладзяцца мерапрыемствы, прысвечаныя Беларусі, беларускім святам, ды і ўвогуле беларускасці, адбываюцца з'езды, сходы, канферэнцыі і г.д.

І вось прыклад навасібірцаў падхапілі беларусы Іркуцка, стварыўшы таварыства імя Яна Чэрскага. Дзейнасць яго не настолькі актыўная, як у Новасібірску, аднак і не малая. Актывісты таварыства разам са студэнтамі, навучэнцамі школ ладзяць розныя беларускія народныя святы: "Гуканне вясны", "Каляды", "Купалле". На базе педагагічнага каледжа створаны харэаграфічны ансамбль "Пралескі". Сёлета створаны ансамбль беларускай песні. Літаратурная сувязь Іркуцка з Беларуссю даволі моцная: у газеце "Маланка" часта друкуюцца матэрыялы беларускіх аўтараў, журналістаў, якія ў асноўным прысвечаны гістарычнаму мінуламу Беларусі.

Цікава, што да справы сібірскага "беларускага адраджэння" актыўна далучаецца моладзь. Прычым, з вялікім захапленнем. Напэўна, большая частка мерапрыемстваў і разлічана на моладзь. Шмат гастралююць па вобласці дзіцячыя калектывы. Гэтаму дапамагае не толькі беларуская суполка, але і Цэнтр народнай творчасці горада Іркуцка. Нават мяркуецца арганізаваць гарадскі дзіцячы фальклорны фестываль "Песенная Ангара".

Прыемна, што на такой адлегласці ад Бацькаўшчыны людзі памятаюць свае карані...

**Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ**



# "ПАН ТАДЭВУШ" — АДРАЗУ НА ТРОХ МОВАХ

18 верасня ў памяшканні Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі адбылося адкрыццё выставы, прысвечанай паэме "Пан Тадэвуш". Разам з тым гэтая імпрэза сталася і своеасаблівай прэзентацыяй выдання кнігі Адама Міцкевіча на трох мовах — польскай, беларускай і рускай.

Адметнае выданне, якое пабачыла свет дзякуючы ініцыятыве Беларускага фонду культуры, жадаючыя маглі набыць тут жа за даволі памяркоўны для такога рарытэта кошт. А тыя, у каго нават гэтай сумы грошай не набіралася, былі змушаны задавольцца суцяшэннем выставы ілюстрацый вядомага мастака Васіля Шаранговіча да паэмы нашага земляка, а таксама самых розных, самых каштоўных выданняў гэтага твора — на польскай, нямецкай, беларускай мовах, рэдкіх дакументаў. Дарэчы, у кнізе быў змешчаны малавядомы пакуль што шырокаму колу чытачоў пераклад "Пана Тадэвуша" на беларускую мову Пятра Бітэля, зроблены пісьменнікам у сталінскіх лагерах.

З'яўленне такой кнігі стала сапраўднай падзеяй для беларускай культуры. Гэта было адзначана ў прамовах ці не ўсіх выступоўцаў, ва ўражаннях тых, хто наведаў імпрэзу. Сярод апошніх, дарэчы, былі такія вядомыя на Беларусі постаці, як Ніл Гілевіч, Міхаіл Падгайны, Уладзімір Гілеп.

**Гальляш СЬВІРЫН**

**На здымках:** старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп прадстаўляе юбілейнае выданне; акварэль Васіля Шаранговіча — ілюстрацыя да кнігі Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш".

**Фота Яўгена Казюлі, БелТА.**

# ПОЛАЦК У ЧАСЕ І ПРАСТОРЫ

У 1498 годзе ад князя Вялікага Княства Літоўскага Аляксандра Полацк атрымаў грамату на Магдэбургскае права. Сёлета спаўняецца 500 гадоў, як калыска беларускай дзяржаўнасці — старажытнае места Полацкае — займела прывілей на самакіраванне, калі пачаўся новы, найбольш спрыяльны этап эканамічнага і культурнага развіцця гэтага наддзвінскага горада.

13—14 кастрычніка ў Полацкім дзяржаўным універсітэце пройдзе міжнародная навуковая канферэнцыя "Беларускі горад у часе і прасторы: 500 гадоў полацкай магдэбургіі". Вучоныя абмяркуюць пытанні грамадска-палітычнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця сярэднявечнага горада, выявяць традыцыі гарадскога самакіравання, разгледзяць праблемы сучаснага гарадскога самакіравання, шляхі іх вырашэння; не застанецца па-за ўвагай і тэма гарадской культуры.

Ажно да XVIII ст. радцы і лаўнікі Полацка творча скарыстоўвалі вольнасці, дараваныя ім вярхоўнай уладай. Нездарма кожны новы захопнік вывозіў багатую здабычу — рамесныя і духоўныя скарбы палачан. Хто толькі не стараўся ўскараскацца на прывабны сталец, узнесены над Палатою і Дзвіною? Бо і дно было там залатое, і берагі сярэбраныя...

Ад прынцыпаў Магдэбургскага права, выгодаў самакіравання не адмовіліся дзяржавы, дзе дбаюць аб дабрабыце і культурным насычэнні сваіх грамадзян. Так што з нагоды 500-гадовага юбілею варта падзякаваць вялікаму князю Аляксандру: нібыта і частку сваёй улады аддаў, а як выйграў!

**Сяргей ПАНІЗЬНІК**

# "ЖЫВАПІСНЫ" ДАРУНАК

Пятру Максавічу Явічу — вучню вядомага Юрыя Пэна, майстру партрэта, вернаму рэалістычнай школе жывапісу, — споўнілася 80 гадоў. З гэтай нагоды была наладжана выстава, якая размясцілася на двух паверхах у вялікіх пакоях Мастацкага музея. Пётр Явіч даў магчымасць шматлікім гледачам атрымаць асалоду ад мясцовых пейзажаў, нацюрмортаў, ад візуальных сустрэч і з незнаёмымі, і з вельмі знакамітымі асобамі, сярод якіх ветэраны вайны, рабочыя і калгаснікі, мастакі і акцёры. Усе свае мастацкія творы, а іх больш за дзвесце, Пётр Явіч дорыць гораду, які стаў другой радзімай мастака.

Лёс так склаўся, што нарадзіўся Пётр Максавіч у Венгрыі. Ва ўзросце васьмі гадоў прыехаў з маці ў горад на Дзвіне. Выпадкова апынуўся ў мастацкай школе Ю.Пэна і з 1932 года вучыўся ў яго жывапісу. Праз два гады 16-гадовы Пётр паступіў у Віцебскую мастацка-педагагічную вучэльню, дзе спасцігаў майстэрства ў таленавітых мастакоў Ф.Фогта, Я.Мініна, В.Дзежыца, І.Ахрэмчыка. Пасля заканчэння вучобы Явіч працаваў мастаком у Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі ў Мінску. З 1948 года пачаў выставачную дзейнасць, браў удзел у рэспубліканскіх і ўсесаюзных выставах, выстаўляўся і ў Венгрыі.

Будзем спадзявацца, што гэта верасьнёўская выстава не апошняя, бо на адкрыцці ўсе ўбачылі не толькі поўныя аптымізму і святла карціны; але і вочы самога мастака — маладыя, яскравыя. А добразычлівы пошук рукі Пятра Максавіча — сведка цялеснай і духоўнай энергіі, залог яго творчага даўгалецця.

**Кансуэла ДРУЖКОВА**
*Віцебск*

# ЁН БЫЎ АСУДЖАНЫ НА ПАКУТНІЦКІ ВЯНЕЦ...

"Где тело моё оступленное и изъязвленное будет схоронено, там Православие процветет". Такія словы вымавіў у апошнія гады свайго жыцця Афанасій, ігумен Брэсцкі, які не прыняў умовы Брэсцкай уніі 1596 года і быў асуджаны на пакутніцкі вянец. З дня яго смерці прайшло 350 гадоў. Да гэтай даты былі прымеркаваны святкаванні, якія праводзіліся ў Брэсце 17—18 верасня Сінодам Беларускай праваслаўнай царквы. У іх бралі ўдзел мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, кіраўніцтва Беларускай праваслаўнай царквы, многія іерархі праваслаўя з Польшчы, Украіны, Расіі. Скончыліся святкаванні хрэсным ходам і боскай літургіяй у Свята-Афанасеўскім манастыры.





**На здымках:** Малебен у Свята-Нікольскім гарнізонным саборы Брэсцкай крэпасці. Вывява прападобнамучаніка Афанасія ў капліцы Свята-Афанасеўскага манастыра, пабудаванай на месцы гібелі Афанасія.

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

## ДАЛУЧЭННЕ ДА СПАДЧЫНЫ

Супрацоўнікі Фаніпальскай пасялковай бібліятэкі вялікую ўвагу надаюць далучэнню чытачоў да народных звычаяў. Нядаўна для школьнікаў было праведзена мерапрыемства "Спас — усяму час". Гэтае свята праходзіла ў выглядзе народнага кірмашу. На стале ў цэнтры залы — лекавыя зёлкі, розная садавіна і гародніна, печыва з маку, арэхі, гарох, калоссе. На вышытым ручніку — хлеб. Падрыхтавана была кніжная выстава па дадзенай тэме. Бібліятэкары Таццяна Таргонская і Людміла Дзядуля распавядалі прысутным аб свяце Спаса, колькі разоў яно адзначаецца, якім сезонным з'явам і сельскагаспадарчым работам прысвячаецца. З вялікай ахвотай прымалі прысутныя ўдзел у народных беларускіх гульнях, спаборнічалі, хто лепш вымавіць скарагаворкі, адгадае загадкі.

Трэба адзначыць, што сцэнарыі цікавых, змястоўных, пазнавальных мерапрыемстваў супрацоўнікі бібліятэкі складаюць самі. Іх праца сапраўды асветніцкая!

**Тамара ШАЎЧЭНКА**
*Дзяржынск*

# ШЧАСЛІВЫЯ ТВАРЫ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

можна было бачыць 19-20 верасня не толькі ў трох музыкантаў аднайменнага маладзечанскага рок-гурта ("Happy face"), але і ў мясцовых рок-тынэйджараў, якія сабраліся ў мясцовым Палацы чыгуначнікаў.

Як кажуць, Маладзечна — горад моладзі. Таму, магчыма, прадзюсерскі праект пад назваю "Вольныя танцы", стырнавыя якога Віталь Супрановіч і Сяргей Сахараў, абраў менавіта гэты горад для правядзення двухдзённага рок-фестывалю "Рок-немаўля".

І сапраўды, у першы дзень фестывалю выступалі дэбютанты рок-сцэны. Праўда, пэўныя каманды можна было пачуць і раней на некаторых выступах на адкрытых пляцоўках. Але без вялікіх абмежаванняў адыграць сваю праграму большасці з гуртоў удалося ўпершыню.

Адно толькі кінулася ў вушы — нашыя рок-немаўляты, не паспеючы навучыцца як след рок-размаўляць, ужо спрабуюць "лабаць пад "Нірвану". Змяняліся на сцэне гурты, а здавалася, што выступае толькі адзін з беларускай перапеўкай гэтага знакаміта-трагічнага амерыканскага гурта. Праўду кажучы, словы песень некаторых гуртоў можна было прымаць за своеасаблівую беларускую рок-паэзію, дзе прысутнічалі і вобразы, і думка, але, на жаль, пра музыку такога сказаць немагчыма. З усёй першадзённае масы рок-немаўляткаў можна было вызначыць EXIST і панк-гурт "Рэактар" (мабыць, таму, што стыль апошняга ўсё ж такі адрозніваецца ад стылю "Нірваны", і таму, што музыкі выйшлі ў шортах і рознакаляровых шапачках-сачках.)

Аднак неабходна падкрэсліць, што нарэшце ў разумных людзей знайшлася разумная ініцыятыва — праводзіць гэты фестываль. Можа быць, юнакі, якія навучыліся трымаць гітару, пасля таго як выйдуць на сцэну са сваіх сутарэнных рэпітавальняў, паслухаюць адзін аднаго, захочуць не пераймаць кагосьці, а памкнуцца быць непадобнымі да такіх жа самых рок-юнакоў, натхняцца на пошукі свайго ўласнага гучання і свайго вобраза.

У другі дзень на фестываль прыехалі ўжо сталыя музыкі: "Новае неба", "Уліс" — і даволі вядомыя "Зьніч", "Green Snake". А ў якасці гаспадароў сцэны выступаў гурт, пра які было ўзгадана на пачатку артыкула, — "Happy face". І, безумоўна, у гэты дзень было ўсё лепш наладжана, і гучанне было больш чыстае. Хай будзе ў нас такі фестываль. Няхай перадаюць вопыт і сябруюць паміж сабой музыкі і іх фаны.

І няхай падрастаюць музычныя немаўляткі!

**Серж МІНСКЕВІЧ**

# "АМАЛФЕЯ" — РОГ КНІЖНАГА ДАСТАТКУ, альбо ПРАБЛЕМЫ НА ПАПЕРЫ

Адразу трэба ўдакладніць, што дастатак гэты, па большасці, тычыцца літаратуры пра бізнес, бухгалтэрыю, менеджмент і іншыя "сур'ёзныя" справы чалавецтва.

Сем гадоў спаўняецца выдавецтву "Амалфея", але гэтыя час прайшоў зусім не дарэмна. Пачаўшы як Школа прадпрымальнікаў, "Амалфея" надалей, дзякуючы выдатнай працы ў галіне юрыспрудэнцыі і бізнесу, ператваралася ў выдавецтва. Але ж нельга лічыць, што літаратура вышэйпазначанага кшталту не патрэбная насельніцтву: наадварот, заканадаўчыя кодэксы, тлумачэнні грамадзянскага права з'яўляліся ў "таварам першай неабходнасці", у якім грамадства мела, ды і да гэтага часу мае вялікую патрэбу. "Амалфея" не спыняецца на гэтым. Апошнім часам выдавецтва пачало выпускаць грамаы (тыксама патрэбная справа). Прычым узяліся за гэта так добра, што нават італьянцы набылі па некалькі экземпляраў. Калі ж "амалфееўцы" спыталіся, для чаго ім патрэбны граматы па рускай мове, італьянцы адказалі, што яны хочуць паказаць іх як прыклад узорнаму дызайну беларускіх калег. За адносна невялікі тэрмін "Амалфея" выйшла на 4-е месца сярод беларускіх выдавецтваў. Яна выдае газету "Жизнь и право", якая, нягледзячы на невялікі "ўзрост" (1 год), займела сваё кола чытачоў.

Выдавецтва "Амалфея" мае некалькі дыпломаў з розных кніжных выстаў, сярод якіх Адэская, Маскоўская... Дарэчы, на Маскоўскім міжнародным кніжным кірмашы "Амалфея" зачаравала ўсіх сваёй серыяй з 18 кніг, якая дапамажа чытачу больш дасканала арганізаваць вытворчасць свайго прадпрыемства, навучыць грамтна працаваць з кліентамі не толькі пры сустрэчах, але і па тэлефоне. Адна з кніг, выдадзеных "Амалфеяй", падчас Маскоўскага кніжнага кірмашу стаяла на Новым Арбаце ў вітрыне кнігарні. Акрамя яе, там былі яшчэ толькі дзевятнаццаць кніг з выставы, прызнаныя лепшымі.

У выдавецтва існуюць і свае праблемы. Зарплату супрацоўнікам не плацілі яшчэ за жнівень, але найбольш складаная праблема — гэта крызіс на фінансавым рынку. Бо з-за таго, што курсы нацыянальных валют скачуць, выдавецтвы не могуць працаваць: папера, паліграфія, апаратура — усё закупляецца за долары, а продаж кніг адбываецца за рублі. Вось і круціся як хочаш...

**Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ**

**P.S.** Згодна прагнозу эканамістаў, калі не зменіцца сітуацыя з фінансамі, то 85 працэнтаў (!) выдавецтваў абанкруцяцца...

**К.В.**

## ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІДу падвялі вынікі конкурсу на лепшы сцэнарый па прафілактыцы СНІДу. Конкурс праводзіўся ў мэтах выканання Дзяржаўнай праграмы прафілактыкі ВІЧ-інфекцыі на 1997—2000 гг. і актывізацыі работы ўстаноў культуры рэспублікі ў прапагандзе здаровага ладу жыцця.

Больш за сорак творчых прац былі адабраны для ўдзелу ў конкурсе. Лепшымі журы прызнала наступныя:

— сцэнарый тэатралізаванага вечара "... і наша полымя возьмуць у спадчыну дзеці" (аўтар Ірына Зіноўева, Гомельскі абласны цэнтр народнай творчасці);

— сцэнарый мастацка-публіцыстычнай праграмы "Задумайцеся! Гэта сур'ёзна" (аўтар Ларыса Сакалова, Мінскае мастацкае вучылішча);

— літаратурна-мастацкі сцэнарый акцыі "Моладзь супраць СНІДу" (аўтары Арцём Чарнышоў, Максім Лазараў, Беларускі універсітэт культуры).

Па выніках конкурсу рыхтуецца да выдання метадычны дапаможнік для работнікаў культуры, у які будуць уключаны лепшыя сцэнарыі, дасланыя на конкурс.

**Фотаакно**



**ПОМНІК БЕЛАРУСКАЙ ПАЭТЭСЕ ЕЎДАКІІ ЛОСЬ У ВІЦЕБСКУ.**

**Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.**

# "...ТО МЛЕЧНЫ ШЛЯХ УПАЎ З НЯБЁСАЎ"

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Гэтыя работы пісаліся эластычным валасяным пэндзлем, тушшу і празрыстымі вадзянымі фарбамі на спецыяльна апрацаваным шоўку альбо паперы.

Першыя буйныя поспехі жывапісу былі замацаваны яшчэ ў V стагоддзі законамі ў форме шасці правілаў з патрабаваннем уважлівага вывучэння натуры, перадачы ўнутранай сутнасці выявы, разумення значэння лініі і колеравай плямы. Хіба сёння гэтыя правілы састарэлі?

І яшчэ. Жывапіс амаль заўсёды звязаны з каліграфіяй: у аснове іерогліфаў знаходзіцца выява рэальных прадметаў. І карціны, і іерогліфы выконваліся пэндзлем. Вобразы хуткаснага каліграфічнага пісьма ("цао-цзы"), які захаваўся дасюль, былі створаны каліграфам Ван Сі-Чжы і ягоным сынам Ван Сінь-чжы ажно ў IV стагоддзі! У перыяд Тан ужо былі вядомы пейзаж, партрэт, побытавы жывапіс, а таксама так званыя жанры "кветкі-птушкі", "людзі", "расліны і насякомыя". У сюжэтах пераважэй сузіральны настрой, звязаны з прыродай і жыццём імператарскага двара.

Твор Чжоў Фанцзаня "Прыдворная служанка", што прадстаўлены ў экспазіцыі, адлюстроўвае менавіта сцэну з жыцця танскай арыстакратыі. Падчас панавання дынастыі Паўночная Сун (X — XI стст.) мастацкае жыццё краіны засяродзілася ў новай сталіцы Бяньляні, дзе ў 1112 годзе імператарам Хой-цзунам была створана першая Акадэмія жывапісу. Да гэтай эпохі прылічваюцца тры цудоўныя работы — "Продаж рыб на рацэ, пакрытай снегам" Лі Дуна, "Пясчаная водмель і дрэвы ў смузе" Хуэй Чуна і "Малпы зрываюць плады" невядомага майстра.

Уважліва вывучаючы прыроду, мастак надаваў ёй, нібыта жывой істоце, чалавечыя пачуцці і перажыванні. Гэта значыць, у аснове жывапісу сунскіх майстроў была перадача сутнасці прадмета ("лі"), жыццёвай моцы ("шэнь") і духу ("цы"). Скажам, у жанры "гара — вада" было важна адлюстраваць адчуванне велічы і грандыёзнасці Сусвету, а ў жанрах "кветкі-птушкі" — зямной таямнічасці ў сферы флоры і фауны.

У перыяд Юань (XIII — XIV стст.) мастакі, якія працавалі ў галіне манахромнага пейзажа — Ван Мэн і Чжао Чжуму, абапіраючыся на традыцыі сунскага мастацтва, стваралі лірычныя пейзажы-навелы ў духу "адраджэння класікі" (экспрэсіўны "Бамбук і камень", элегічная "Празрыстая вада і цьмяны месяц").

Дарэчы, кітайскія пейзажы не пісаліся з натуры. Яны ствараліся ў майстэрні нібыта па памяці і ўяўлялі з сябе, хутчэй, сімвалы святу і алегорыі, чым канкрэтныя куткі прыроды. Менавіта ў Кітаі з'явілася знакамітая "рассеяная перспектыва": мастак глядзеў на прыроду нібыта зверху, з вышыні птушынага палёту, і да гэтага далягляд узнімаўся перад ім на фантастычную вышыню. Карціна падзялялася на некалькі планаў, узнятых адзін над другім, таму прадметы, намаляваныя ўдалечыні, аказваліся самымі высокімі.

У сувязі з гэтым хацелася б узгадаць цудоўныя паэтычныя радкі вялікага танскага паэта Лі Бо, які жыў у VIII стагоддзі: "За шызаю смугой удалечыні Палае захад, Гляджу на горныя хрыбты, На вадаспад. Ляціць ён з воблачных вышынь Скрозь чорны лес — Здаецца: то Млечны Шлях упаў з нябёсаў".

У гэтых радках — светлыя чалавечыя пачуцці і светлая гармонія прыроды, гэта значыць, тое, што заўсёды было характэрным і для кітайскага жывапісу.

У перыяд Мін (XIV — XVII стст.) мастакі, у асноўным, працягвалі традыцыі Тан і Сун. Аднак, найбольш адметныя, перадавыя майстры (Лінь Лян) адлюстроўвалі сваё, нетрадыцыйнае разуменне жыцця. Чэнь Хуншоў паспяхова працаваў у жанры шматпостацевай кампазіцыі з выкарыстаннем манеры "гун-бі" пры скрупулёзным адлюстраванні дзеяння ("Прыдворная служанка з шаўковым веерам", "Банан").

Менавіта ў гэты час персідскі падарожнік Ібн-Батутат адзначаў: "Што да жывапісу, дык ніякая нацыя, хрысціянская альбо паганская, не можа спаборнічаць з кітайцамі".


Ці Байшы. "Хрызантэма".


"Кітайская сцяна". Шоўк.

У перыяд позняга феадалізму (XVII — XIX стст.) пры дынастыі Цын жывапіс працягваў ісці па шляху старых традыцый, формаў і вобразаў, узаконеных яшчэ ў XVII стагоддзі тэарэтычным "Трактатам з саду велічынёй з гарчычнае зернейка", дзе былі сабраны асноўныя правілы напісання асобных частак кампазіцыі. Хаця мастакі Чжу Да ("Дзікія гусі"), Жэнь Бонянь ("Чжунькуй — бог-карнік злых духаў") сягалі далёка за межы канонаў, смела і востра трактуючы старыя сюжэты.

У другой палове XIX стагоддзя на фоне агульнага заняпаду культуры з'явіліся свежыя парасткі новага дэмакратычнага мастацтва, яскравым прадстаўніком якога быў Чжао Чжыцянь ("Ружы", "Вечназялёнае дрэва"). Рух за адрад-



# СЛОВЫ, СЛОЎНІКІ, СЛАВЯНЕ: АГУЛЬНЫЯ КАРАНІ

### 1. Паміж фэстам і алімпіядай

Адзін раз на пяць гадоў славісты розных краін маюць сваё свята — міжнародныя славістычныя з'езды, якія збіраюць навукоўцаў і універсітэцкіх выкладчыкаў, што займаюцца мовамі, літаратурамі і гісторыяй славянскіх народаў. Славістычныя з'езды праходзяць па чарзе ў кожнай славянскай краіне. Папярэдні адбыўся ў Браціславе, наступны будзе ў Любляне, а сёлетні, з 27 жніўня па 2 верасня, праходзіў у Кракаве.

У адрозненне ад алімпійскіх гульняў, нацыянальныя "зборныя" славістаў спаборнічаюць не ў час кангрэсаў, а ўсе гады напярэдадні. Славістычная моц нацыянальных традыцый складаецца з якасці і колькасці выдадзеных слоўнікаў і граматык, новых даследаванняў і падручнікаў па мове і літаратуры, філалагічных і гістарычных часопісаў, навуковых выданняў помнікаў слова — старажытных першакрыніц, фальклору, класікаў прыгожага пісьменства. Вось чаму ўвесь час кангрэсу так ажыўлена было ў Ягелонскай бібліятэцы: у яе вестыбюлях былі разгорнуты выставы новых выданняў па славістыцы, што прывезлі дэлегацыі кожнай краіны-ўдзельніцы. І менавіта тут было відавочна: свет славістыкі значна больш шырокі, чым славянскі свет. Бачылі б вы славістычнае выдавецкае багацце Германіі!

Хуткасць, з якой штогод шырыцца кніжна-часопіснае мора славістыкі, амаль палохае. У 1908 годзе вычарпальная бібліяграфія па славянскім мовазнаўстве (выдадзеная, дарэчы, у Варшаве) апісвала 245 работ, надрукаваных за адзін год ва ўсіх еўрапейскіх краінах; зараз гадавая мовазнаўчая бібліяграфія (якая, аднак, ужо не прэтэндуе на вычарпальную паўнату) налічвае звыш 7000 публікацый. А гэта ж толькі адна галіна славістыкі, без літаратуразнаўства і гісторыі! Вось чаму міжнародныя з'езды славістаў былі вымушаны паступова звузіць свае тэматычныя межы: на Кракаўскі кангрэс сабраліся толькі філолагі, без гісторыкаў. І ўсё ж у праграме з'езду, а таксама ў двух тамах рэзюмэ прадстаўлена звыш 1000 дакладаў і паведамленняў. І хаця прагучала не ўся "тысяча", але і лічба 800 — уражвае.

### 2. W królewskim pięknym Krakowie

Бадай, ні ў якой іншай са славянскіх краін урачыстае адкрыццё Кангрэса не магло б прайсці з той цырыманіяльнай прыгажосцю, што ствараецца стагоддзямі супольнага акадэмічнага, царкоўнага і грамадзянскага жыцця. Сярод ганаровых прысутных — польскі прэзідэнт Аляксандр Кваснеўскі, "Яго Эмінэнцыя" кракаўскі кардынал і мітрапаліт, вышэйшыя чыны з адміністрацыі прэзідэнта, кіраўніцтва Польскай акадэміі навук, міністр культуры і мастацтва, міністр адукацыі, кракаўскі мэр, рэктар Кракаўскага універсітэта, дэкан філалагічнага факультэта, галоўныя кракаўскія генералы... Шматлікая ахова, у адрозненне ад кардынала і генералаў, — у цывільным, але таксама адметна і спрыяе небудзённасці атмасферы. Ля сцэны — стэнд з фірменнымі знакамі і лагатыпамі 15 спонсараў Кангрэса. Словы прывітанняў узважаныя, стопрацэнтна палітычна карэктныя і пры гэтым разнастайныя. Гучыць тэлеграма і "апостальнае бласлаўленне" Папы Яна II. Прэзідэнт гаворыць аб дванаццаці славянскіх дзяржавах "на мапе Еўропы", аб еўрапейскай інтэграцыі і "славянскім чынніку", які надасць "нашай старой Еўропе новай дынамікі, умацуе яе самабытнасць і дапаможа закончыць гістарычныя спрэчкі". Старадаўняя формула W królewskim pięknym Krakowie з вуснаў прэзідэнта гучыць амаль лірычна.

### 3. Без перакладчыкаў

У сёлетнім Кангрэсе, акрамя аўтараў з усіх славянскіх дзяржаў, удзельнічалі славісты з 28 неславянскіх краін. Гэта значыць, што цэнтры славістыкі і паўную славістычную адукацыю маюць, па-за межамі славянскага свету, Азербайджан, Албанія, Аўстралія, Аўстрыя, Бельгія, Вялікабрытанія, Венгрыя, Германія, Грузія, Грэцыя, ЗША, Ізраіль, Іспанія, Італія, Канада, Карэя, Латвія, Літва, Малдова, Нарвегія, Нідэрланды, Румынія, Фінляндыя, Францыя, Швейцарыя, Швецыя, Эстонія, Японія.

Па звычаю, на міжнародных славістычных кангрэсах рабочыя мовы — гэта ўсе славянскія і традыцыйныя для славістыкі міжнародныя неславянскія, — нямецкая, англійская, французская. Нельга сказаць, што моўных цяжкасцей не было, але, па-першае, прафесія славіста абавязвае яе мінімум арыентавацца ў славянскай моўнай прасторы, а па-другое, славянскія мовы, у адрозненне ад раманскіх і германскіх, усё яшчэ засвоены даволі блізкімі адна да адной (хаця працэсы разыходжання і адасаблення славянскіх моў доўжацца ўжо паўтары тысячы гадоў). Моўныя бар'еры ўсё ж пераадольваліся, і галоўныя цяжкасці былі звязаны не з мовамі, а з часам: адначасова працавала 16 секцый, а аднаго вечара — адразу нават 20, так званых тэматычных блокаў (ці "круглых сталоў"). Гэта значыць, што ў лепшым выпадку можна было пачуць крыху больш за пяць адсоткаў з праграмы Кангрэса. Але і гэтага нямала, асабліва калі ўлічыць, што цікавымі і часам павучальнымі былі не толькі самі даклады, але і пытанні, дыскусіі, спрэчкі... Галоўнае ж — магчымасць убачыць і пачуць тых, хто дагэтуль быў вядомы толькі завочна, па прозвішчы на кніжных вокладках ці ў часопісных рубрыках. Чвэрць гадзіны жывога слова часам дае не менш, чым кніга. Вось чаму большасць з удзельнікаў Кангрэса адчулі новыя стымулы, што ішлі ад міжнароднай прафесійнай лучнасці: нас многа і мы цікавыя адзін аднаму.

### 4. Без палітыкі

Пасля разбурэння берлінскай сцяны славістыка даволі імкліва змянілася. У краінах былога сацлагера не стала забароненых ці непажаданых тэм, партыйна-ідэалагічнага кантролю і "ахоўчых" функцый "партыйнай" навукі. На Захадзе, асабліва ў ЗША, славістыка часткова згубіла сваё "стратэгічнае значэнне" — быць філалагічнай базай вывучэння "імперыі зла" і яе ўсходнееўрапейскіх саюзнікаў. На жаль, на Захадзе гэта адбілася на фінансавай падтрымцы славістыкі, на колькасці студэнтаў і славістычных семінараў. У новых незалежных краінах фінансавыя цяжкасці звязаны з умовамі пераходнага часу, але, насуперак ім, свабода ад партыйнай апекі прывяла да даўно нябачнага росквіту гуманітарнай думкі, асабліва ў філасофіі, культуралогіі, літаратуразнаўстве. Забароненыя некалі тэмы нацыяналізму, рэлігійных пошукаў, індывідуалістычнай і эксперыментальнай эстэтыкі перажываюць росквіт. Пры гэтым самі словы нацыяналізм, нацыяналіст у посттаталітарных краінах ужо гадоў восем як пазбавіліся адмоўнага адцення.

Заўважу, што кола моваведаў было трохі шырэйшым, чым літаратуразнаўцаў і фалькларыстаў, і гэта не выпадкова.

### 5. Даклад, на які імкнуліся ўсе

Каб умясціць усіх жадаючых, гэты даклад прыйшлося перанесці, бадай, у самую вялікую аўдыторыю хімічнага калегіума Ягелонскага універсітэта — амфітэатр слухачоў на 300. Даклад называўся "Праблемы вывучэння берасцяных граматаў", і рабіў яго Андрэй Анатолевіч Залізняк, 60-гадовы акадэмік з Інстытута славяназнаўства і балканістыкі Расійскай Акадэміі навук. Даклад зусім не быў сенсацыяй, бо наўгародскія берасцяныя граматы былі адкрытыя ўжо даўно, у 1951 г., з таго часу інтэнсіўна даследуюцца, вядуцца новыя раскопкі, сам Залізняк надрукаваў аб граматах на берасце некалькі кніг, дзесяткі артыкулаў, колькі разоў выступаў з дакладамі. І ягоны кракаўскі даклад не быў ні вынікам, ні абагульненнем: так, некаторыя

***Пра Васіля Кандзінскага чулі практычна ўсе, хто цікавіцца мастацтвам. Але мала хто ведае — у чым жа сутнасць ягонага светапогляду і творчасці? Іншы раз ягонае імя звязваюць з заснаваннем Віцебскай мастацкай школы і нават ставяць у гэтым кантэксце побач з Малевічам і Шагалам. Але, на жаль, Кандзінскі не меў непасрэднага дачынення да Віцебска, не лічачы ягонага ўдзелу ў некаторых выставах, што адбываліся тут у 20-я гады.***

***Кажуць, што ён разы са два наведаў горад на Дзвіне, каб прачытаць лекцыі. Магчыма. Але дакументаў на гэты конт я нідзе не знайшоў. Ды і не ў гэтым справа. Важна іншае: Кандзінскі несумненна адыграў пэўную духоўную ролю ў складаных і супярэчлівых працэсах, звязаных з імёнамі віцебскіх “авангардыстаў” — Малевіча, Лісіцкага, Пуні, Ермалаевай, Багуслаўскай, Суэціна. Не кажучы ўжо пра тое, што без Кандзінскага ўся сусветная культура XX стагоддзя была б вельмі збяднелай і няпоўнай.***

***Дык хто ж ён, гэты дзіўны і незразумелы геній, для якога “мэта жывапісу як моцы павінна быць скіравана на ачышчэнне чалавечай душы”?***

# ВАСІЛЬ КАНДЗІНСКІ: “КОЛЕР — ГЭТА КЛАВІШ; ВОКА — МАЛАТОЧАК; ДУША — ШМАТСТРУННЫ РАЯЛЬ”...



Васіль Васілевіч быў чалавекам леанардавага размаху. Нястомны эксперыментатар ва ўсіх галінах мастацкай творчасці. Жывапісец. Графік. Плакатыст. Тэарэтык мастацтва. Педагог. Музейшчык. Грамадскі дзеяч.

На працягу свайго даволі доўгага жыцця Кандзінскі быў грамадзянінам трох краін — спачатку Расіі, потым Германіі, а напрыканцы свайго жыццёвага шляху — Францыі. Апошняя “прапіска” мастака была вымушанай: ён пакінуў Германію пасля прыходу да ўлады Гітлера, калі карціны мастака былі абвешчаны “дэгенератыўным мастацтвам”. Аднак французскім мастаком Кандзінскага назваць нельга. Што ж да Расіі і Германіі, з якімі яго звязаў лёс, дык тут ён быў “сваім сярод сваіх”.

Само паходжанне Майстра давала падставу для розных нацыянальных арыентацый. Да ягонай рускай крыві былі падмешаны нямецкая (бабка з боку маці) і мангольская. Нездарма Кандзінскага заўсёды цягнула не толькі ў Германію, але і на Усход, на Поўнач, дзе ўвагу мастака прыцягвалі розныя народы, іхнія веравызнанні, мясцовая народная творчасць, побыт, шаманства.

Кандзінскі даволі позна далучыўся да мастацтва. Ураджэнец Масквы, ён вучыўся ў адэскай гімназіі, потым паступіў у Маскоўскі універсітэт, дзе вывучаў юрыспрудэнцыю. Аднак цікавіўся этнаграфіяй і палітычнай эканоміяй. Яму ўжо была падрыхтавана кафедра ў Дэрпце (Тарту), але ён раптам усё кідае і ад'язджае ў Мюнхен для навучання жывапісу. І гэта — у трыццацігадовым узросце!

Такім чынам, лінія жыцця Кандзінскага рэзка павярнула ў бок і ўжо да скону ягонага веку, да 1944 года, заставалася такой, звязанай з Яго Вялікасцю — Жывапісам. Жыццё ў мастацтве працягвалася доўга — каля паўстагоддзя.

Упершыню савецкі глядач шырока пазнаёміўся з надзвычай маляўнічым светам жывапісу Кандзінскага на ягонай персанальнай выставе ў Траццякоўскай галерэі на Крымскім вале гадоў дзесяць таму. Гэта было неверагодна феерычнае відовішча, якое ўзбуджала душу колеравымі імпрэсіямі, акордамі, імправізацыямі. У экспазіцыі былі прадстаўлены творы Майстра як з савецкіх музеяў, так і з калекцый галерэй Мюнхена, Нью-Ёрка, Парыжа. Больш за дзвесце работ. Да таго часу Кандзінскі ўжо сорак пяць гадоў як пайшоў з жыцця...

...Васіль Васілевіч — у Мюнхене. Тут ён трапляе спачатку ў прыватную мастацкую школу Антона Ашбе, потым да Франца фон Штуке ў Каралеўскую акадэмію мастацтваў. Аднак гэтыя заняткі не прыносілі радасці будучаму мастаку, хутчэй, пакінулі пачуццё горычы. Пазней Кандзінскі ўзгадваў, як пакутліва працаваў над агаленай натурай, як прыгняталі яго сцены школы.

Аднак, мяркую, “вучнёўства” гэтае дало і пэўны плён: менавіта тут пачынаўся цяжкі шлях набыцця свайго “іміджу”. У той час у Германіі пануючым мастацкім накірункам быў так званы рух “югендстыль”, звязаны з пошукамі сінтэзу і новых манументальна-дэкаратыўных пластычных формаў. У Расіі гэты стыль атрымаў назву мадэрн. Кандзінскі не застаецца ў баку, спрабуе працаваць у галіне ўжытковага мастацтва і графікі, эксперыментуе ў гліне, распрацоўвае эскізы жаночых упрыгожванняў, мэблевай фурнітуры.

І вось, нарэшце, у 1901 годзе Кандзінскі стварае творчае аб'яднанне “Фаланга”, якое за два гады наладзіла дванаццаць выстаў сучаснага мастацтва. Адначасова Кандзінскі выказваў цікавасць і да рускага варыянту “югендстылю” — да Білібіна, Рэрыха, Барысава-Мусатава, В.Васняцова, падтрымліваў сувязь з часопісам “Мир искусства”.

У другой палове 1910-х гадоў Кандзінскі жыў і працаваў у Мурнау — невялікім баварскім мястэчку каля Мюнхена. Менавіта тут у ягоных творах аказаліся сабранымі разам усе тэндэнцыі і знаходкі ранняй творчасці. Пераасэнсоўваючы жывапісныя дасягненні



*“Карабель”. 1918.*

французскіх фавістаў і нямецкіх мастакоў-экспрэсіяністаў групы “Мост”, Кандзінскі ўсведамляе дэкаратыўныя магчымасці лініі і колеравай плямы. У пейзажах гэтага перыяду колер робіцца больш насычаным, паралельна з экзальтацыяй фарбаў сакавіты мазок змяняецца на колеравую плоскасць, а прадметная першаснова адыходзіць, каб неўзабаве зусім знікнуць.

“Калі ўскалыхнуліся рэлігіі, навука і мараль, — пісаў мастак, — і знешнія асновы пагражаюць падзеннем, чалавек скіроўвае свой позірк ад вонкавага ў сярэдзіну самога сябе. Літаратура, музыка і мастацтва з'яўляюцца першымі, найбольш адчувальнымі галінамі, у якіх гэты паварот да духоўнага робіцца заўважным у рэальнай форме”.

Замяніўшы рэчавую сутнасць суадносінамі чыстых выразных эмоцый і духоўных уяўленняў, Кандзінскі робіць гэты паварот. Ён стварае на палатне вобраз, але паміж ім і першым бачным уражаннем ёсць пэўная адлегласць, у якой мастак вылучае тры стадыі: **імпрэсію**, што фіксуе ўражанне, **імправізацыю**, якая пераасэнсоўвае яе актыўным удзелам фантазіі, і найбольш складаную форму праявы творчага пачатку — **кампазіцыю**, якая выклікае ў аўтара “ўнутраную вібрацыю” і гучыць нібыта малітва.

Філасофскае абгрунтаванне сваёй тэорыі мастак даў у бліскучым трактаце “Пра духоўнае ў мастацтве” (1912), які дасюль чытаюць ва ўсім свеце як цудоўны філасофскі раман-эсэ.

“Когда б вы знали, из какого сора растут стихи, не ведая стыда”, — гэты ахматаўскі вобраз вельмі дакладна адлюстроўвае сэнс творчасці Кандзінскага. Усё ў жыцці, перакананы мастак, мае касмічныя маштабы: недапалак, што застыг у попельніцы, белы гузік у лужыне, кавалак кары, які мурашка цягне праз траву-джунглі, “сур'ёзны і строгі” пах шкіпінару ў майстэрні і, безумоўна, “перажыванне, народжанае з цюбіка фарбы”.

Наогул, гэтае ўражанне касмічнасці, бязмежнасці прасторы і руху — першае, што кідаецца ў вочы гледачу. Але здзіўляе іншае — ствараліся гэтыя карціны ў той час, калі паняцце “космас” было для чалавецтва яшчэ незразумелым, чужым для нашага побыту. А побач — прызнанне мастака: “Асабліва моцным уражаннем (у юнацтве. — **Б.К.**) былі: Рэмбрант у Пецярбургскім Эрмітажы і мая паездка ў Валагодскую губерню”. Ну, Рэмбрант — гэта зразумела. Але тое, што кажа пра “валагодскую губерню” самы, магчыма, еўрапейскі з рускіх мастакоў, — безумоўна, цуд, у які цяжка паверыць.

А не паверыць якраз нельга — менавіта тут знаходзяцца вытокі самых значных адкрыццяў Кандзінскага. Народны роспіс у валагодскіх хатах — на калаўротах, шафах, куфрах, — уразіўшы, навучыў яго таму, што жывапіс — не двухмерная плоскасць у рамцы, што вісіць на сцяне для агляду, а жывы, дзейсны свет, у які трэба ўвайсці, які абкружае цябе, і ты робішся ягонай часткай... Гэтае адкрыццё, што спачатку ўразіла мастака, потым аказалася імкненнем, да якога Кандзінскі ішоў доўга і цяжка і якога — мы бачым гэта — дасягнуў.

Спачатку Кандзінскі шукаў раўнавагу паміж рэальнасцю і абстракцыяй, дзе маглі б рэалізавацца ўнутраныя законы мастацкага вобраза. Набытая цэласнасць была яшчэ няўстойлівай. Потым, адыходзячы ад матэ-



*“Лодка”. 1922.*

рыяльнай абалонкі рэчаў, пакідаючы нейкі ўспамін пра яе, мастак нібыта кантраляваў гэтымі ўспамінамі знойдзенае адзінства. І толькі пасля гэтага ён канчаткова парваў са слядамі бачнай прадметнасці. Гэта, так бы мовіць, яшчэ “паўабстрактныя” рэчы.

У карціне “Возера” з Траццякоўкі прадметны і беспрадметны прынцыпы яшчэ суіснуюць. Мы даволі дакладна бачым лодку, весляроў, вёслы, абрысы замка. Што да іншых частак кампазіцыі, дык тут разгадку павінен шукаць глядач, якому сінія палосы могуць здацца знакамі касмічнасці, шматстайнасці светаў, якія нібыта сутыкнуліся адзін з адным, зліліся ў нейкае сусветнае быццё. Кандзінскі быццам бы далучае гледача да містычных таямніц нараджэння Сусвету і яго смерці.

Пачынаючы з гэтай карціны творчасць Кандзінскага, бадай, набывае магічны пачатак. Але ягоная магія накіраваная на далучэнне чалавечай душы да сапраўдных таямніц свету.

Метад і стыль Кандзінскага абвастрыліся і сфармаваліся канчаткова ў першай палове 1910-х гадоў. Авалодаўшы сродкамі для выказвання самага патаемнага, мастак вольна карыстаўся імі. Вылучыўшы ў выглядзе галоўнага пачатку ў мастацтве духоўны змест і зрабіўшы асноўным сродкам яго выказвання камбінацыю беспрадметных формаў, Кандзінскі выступіў як прарок новага творчага прынцыпу. Ягонае прароцтва сягала далёка за межы мастацкіх праблем.

Бадай, лепшымі прыкладамі набытай мастаком сталасці і непаўторнасці ягонага падыходу да рэалізацыі задумы з'яўляюцца карціны “Кампазіцыя № 6” і “Кампазіцыя № 7”. Амаль аднолькавыя па памерах, яны адрозніваюцца па змесце і яго ўвасабленні. Абедзве ўяўляюць з сябе менавіта форму, якая і была для Кандзінскага жаданай мэтай. Нарэшце мастак атрымаў тут поўную перамогу, разгарнуўшы ў прасторы жывапісна-пластычную сітуацыю і дасягнуўшы цэласнасці і завершанасці мастацкага вобраза.

Для нагляднасці паспрабую прааналізаваць гэтыя карціны. Кожны з матываў, дасягаючы гранічнага напружання, падобны да нейкай катастрофы, выбуху, патопу. Плямы і лініі дзейнічаюць у гэтых сцэнах, нібыта жывыя істоты. Але тое, што гэта не канкрэтныя людзі, жывёлы альбо прадметы, а абстрактныя формулы, толькі павялічвае выразнасць пластычнай падзеі. Губляючы канкрэтнасць, яна набывае ўласцівасць агульнасці. Трагедыя разгортваецца ва ўмоўным часе, утрымоўвае ў сабе катарсіс, гарманічнае вырашэнне, здавалася б, невырашальных супярэчнасцяў.

Вяртанне ў Расію ў разгар першай сусветнай вайны, пасля развалу заснаванага Кандзінскім яшчэ ў 1911 годзе таварыства “Сіні вершнік”, адзначана кароткачасовым адыходам да фігуратыўнасці. Але пасля маскоўскіх пейзажаў, “Георгія Перамоганосца” і “Чырвонай плошчы” рэальнае зноў саступае месца беспрадметнаму.

Наогул, узлёт Кандзінскага прыпаў на передваенныя гады. Але і потым ён працягвае актыўна распрацоўваць свой метад. “Яснасць”, “Невыразнае”, “Змрочнае” — гэта 1917 год. “Белы авал”, “Два авалы”, “Чырвоны авал”, “Карціна на шэрым фоне”, “Чырвоная пляма. II” — усе гэтыя палотны 1916 — 1921 гадоў з'яўляюцца ўзорамі музыкі, якая ажыла ў фарбах.

У трактаце “Пра духоўнае ў мастацтве”, даследуючы прыроду колеру, Кандзінскі пісаў пра яго як пра незалежную духоўную субстанцыю, здольную існаваць па-за формай і маючую пэўныя ўласцівасці. Да прыкладу, блакітны колер, паводле ягонай тэорыі, выказвае чысціню пачуццяў і высакароднасць намераў , жоўты — каварства і агрэсію, недавер і ганебнасць інстынктаў.

Абапіраючыся на сваю колеравую сімволіку, Кандзінскі ў 1913 годзе напісаў сцэнічную кампазіцыю “Жоўты гук”. Жывапіс, музыка, пластыка — вось тая сінтэтычная выяўленчая мова, на якой мастак паспрабаваў гаварыць з намі пра адвечнае — пра Дабро і Зло.

Праз 60 гадоў ягоныя ідэі ўвасобіліся ў музычных вобразах Альфрэда Шнітке, а яшчэ праз дзесяць — у спектаклі Тэатра пластычнай драмы Гедруса Мацкявічуса.

**Барыс КРЭПАК**

*(Заканчэнне будзе.)*

Умберта Эка

# "ЦЯРПІМАСЦЬ І НЕЦЯРПІМАЕ"

***У** 1993 годзе Умберта Эка, лінгвіст, семіёлаг, універсітэцкі прафесар і выдатны раманіст, быў адным з сарака інтэлектуалаў, якія заклікалі еўрапейцаў быць больш пільнымі да дзеянняў крайніх правых. Занепакоеныя звычнасцю, з якой сёння ўспрымаюцца небяспечныя ідэі, і спакуслівай сілай некаторых з іх, удзельнікі "Заклiку да пільнасці", а на сёння іх ужо некалькі сотняў, абавязаліся не браць удзелу ў ніводнай сустрэчы, тэле- ці радыёперадачы, публікацыі, якія маюць хоць нават самыя далёкія адносіны да крайніх правых.*

*У інтэрв'ю для журнала "Le Monde" Умберта Эка тлумачыць свой удзел у "Заклiку" і развівае тэму цярпімасці і нецярпімага.*

***— Крытыкі "Заклiку" сцвярджаюць, што правых і левых больш не існуе — стары падзел ужо не актуальны, прарысоўваюцца новыя палітычныя і культурныя лініі, таму перасцярога пра небяспеку крайне правых ідэй састарэла. Інакш кажучы, ваш заклік да пільнасці не адпавядае часу, гэта спроба штучна адрадзіць межы, якія ўжо былі знішчаны ходам гісторыі. Як вы адкажаце на гэткую крытыку.***

— Такі каментар — вынік той рызыкоўнай захопленасці гістарычнымі зменамі, у палоне якіх мы знаходзімся зараз, а таксама інтэлектуальнай і маральнай нядбайнасці. Дазвольце, я растлумачу.

Старыя еўрапейскія катэгорыі "левых" і "правых" у тым выглядзе, у якім яны існавалі на працягу апошніх 20 гадоў, бясспрэчна, болей не адпавядаюць разуменню сучасных палітычных падзей. Маё падарожжа ў Бразілію і Аргенціну ў 60-х гадах ужо тады прымусіла мяне зразумець, што звычныя адрозненні паміж правымі і левымі болей недарэчныя ў адносінах да большасці палітычных рухаў Лацінскай Амерыкі. Гэтае адчуванне, якое здалося тады адначасна і дзіўным і новым, сёння датычыць усёй Еўропы.

Мы бачым, як партыі, што нібыта лічацца левымі, займаюць пазіцыю, якая традыцыйна асацыіруецца з правымі, і наадварот. Вось, напрыклад, адна нядаўняя падзея: Дэмакратычная Сацыялістычная партыя — ранейшая Італьянская Камуністычная партыя — падтрымала рашэнне ўрада пасьлаць паветрана-дэсантныя войскі ў Самалі. Калі б хто-небудзь 20 гадоў таму сказаў мне, што камуністы падтрымаюць ваенную экспедыцыю супраць ранейшай калоніі, я б адказаў, што гэта штосьці са сферы фантастыкі. Гэты ход падзей у вышэйшай ступені ўзрушвае, ніводзін мыслячы чалавек не можа застацца да гэтага абыякавым. Новыя сітуацыі патрабуюць новага аналізу. Мы не павінны дазваляць нашаму мысленню застыць у састарэлых догмах і дактрынёрскіх крытэрыях. З гэтага пункта гледзішча, сучасныя змены — сапраўды інтэлектуальны выклік.

Але было б вялікай памылкай рабіць высновы, што ўсё змянілася само па сабе. Калі мы будзем думаць, што ўсе ідэі раўнацэнныя і што ніводную з іх ні пры якіх абставінах не трэба адмаўляць, дык, у рэшце рэшт, мы сур'ёзна заблытаемся. Правілы палітычнай гульні знаходзяцца ў стане перамен. Гэта зусім не значыць, што правілаў няма ці што нам варта адмовіцца ад стварэння новых. Карты перараздадзены. Але іхняя вартасць застаецца ранейшай.

***— Напрыклад?***

— Я не бачу рэальнай розніцы паміж брытагаловымі і сёняшнімі неанацыстамі і нацыстамі ранейшага пакалення. Яны нічым не адрозніваюцца ад сваіх папярэднікаў. Гэта ўсё тая ж тупасць і рашучасць усё знішчыць, тая ж нянавісць да іншых і воля да разбурэння. Адзіная розніца ў тым, што нацысты знішчылі мільёны жыццяў, тады як іхнія наступнікі пакуль што пабілі некалькі тузінаў.

Наш абавязак як мыслячых людзей падкрэсліць той факт, што ўсё змянілася апроч гэтага; наша адказнасць у тым, каб правесці мяжу паміж тым, што цярпімае і што нецярпімае. Абавязваючыся не супрацоўнічаць з часопісамі і не браць удзелу ў радыё- і тэлеперадачах, арганізаваных тымі, хто звязаны з крайнімі правымі, удзельнікі "Заклiку" не адмаўляюць зменаў, што адбыліся ў свеце, і не адмаўляюцца ад пераасэнсавання таго, што адбываецца. Мы проста заявілі пра сваё рашэнне не падтрымліваць тыя тэндэнцыі, якія лічым небяспечнымі для дэмакратыі.

***— Аднак, ці гэта не нецярпімасць? Ці не новая гэта форма макартызму?***

— Такое абвінавачванне абсурднае. Ці трэба нагадваць, што ўяўляў сабой макартызм? Гэта была афіцыйная палітыка забароны, якая адных пазбаўляла працы, другіх адпраўляла ў турму толькі таму, што яны былі камуністамі ці бадзягамі. Хіба можна параўнаць такія метады з тым, што зрабілі ўдзельнікі "Заклiку"? Мы зрабілі свой выбар: адмовіліся ўдзельнічаць у любых інтэлектуальных, выдавецкіх ці інфармацыйных акцыях, што звязаны з крайнімі правымі. Кожны мае права сказаць "не" супраць таго, што яму не падабаецца.

***— Вы кажаце, што вы з прынцыпу адмаўляецеся ад любога дыялога ці дыскусіі з тымі, каго вы лічыце небяспечнымі?***

— Безумоўна, не! У мяне няма падставаў адмаўляцца ад сапраўднай дыскусіі з кім бы ні было і незалежна ад яго поглядаў. Адно што патрэбна, гэта каб дыскусія праходзіла ва ўмовах, якія гарантуюць сумленную гульню. Гэта патрабуе ясна абазначаных умоў адносна месца і зместу сустрэчы. Інакш раптам можна выявіць, што праз нейкія хітрыкі, як я гэта называю, вас уцягнулі ў сітуацыю, у якой вашыя словы будуць няправільна трактаваныя.

Я падпісаў "Заклік", які ні ў якім разе не ўзгадваў імёнаў і не выдзяляў асобныя інцыдэнты, бо ў Італіі інтэлектуалы, якія маюць рэпутацыю левых, асабліва члены Камуністычнай партыі, таксама бралі ўдзел у акцыях, арганізаваных новымі правымі. Апошнія, такім чынам, выкарысталі прысутнасць першых у сваіх мэтах: "Бачыце, мы больш не раз'яднаныя, яны з намі".

Гэта добра вядомая тактыка. Прыкладам, вас запрашаюць да абеду толькі дзеля таго, каб выкарыстаць вашую прысутнасць за сталом як форму візітнай карткі, што адкрывае камусьці доступ да такіх рэчаў, з якімі вы не маеце нічога агульнага. Аднойчы даведаўшыся пра гэта, вы можаце ветліва адхіліць запрашэнне. Хіба гэта безапеляцыйная ўстаноўка? Гэта толькі права пазбягаць месцаў, дзе на вас наклейваюць ярлык, і варта папярэдзіць і сваіх сяброў: "Будзь асцярожны. Калі ты ідзеш туды, ведай, што цябе збіраюцца "паймець". Незалежна ад таго, што ты будзеш там казаць, сам факт тваёй прысутнасці будзе палітычным актам".

***— Вы робіце адрозненні паміж дыялогам і тым, што называеце "хітрыкамі". Не маглі б вы развіць гэтую думку?***

— Калі б я заўтра арганізаваў семінар па гісторыі ці філасофіі ў сваім універсітэце, я б запрасіў спецыялістаў, чые погляды і тэорыі цалкам адрозніваюцца ад маіх. І нашым абавязкам было б абмеркаваць аргументы адзін аднаго так шчыра і рашуча, як толькі магчыма, нават калі мы не дасягнем згоды ў канцы. Дыялог, якім бы напружаным ён ні быў, выяўляе, што ніхто не скарыстоўвае чыесьці словы ці прысутнасць на сваю карысць. Хітрыкі — гэта нешта зусім іншае. Калі камуністычная партыя запрашала інтэлектуалаў падпісаць якую-небудзь петыцыю, дык не ўзнікала сумніву ў іх камуністычных поглядах. Тым жа шляхам большасць каталіцкіх арганізацый зацягваюць асобу, гаворачы ёй: "Ты абсалютна свабодны; ты можаш казаць пра ўсё, што хочаш". Але калі нехта бярэ ўдзел у іхніх дыскусіях, дык ён становіцца нібы з імі разам. "Ты тут, значыць, ты мусіш быць адным з нас". Гэта не мае нічога агульнага з дыялогам!

Некаторыя арганізацыі традыцыйна занятыя зацягваннем. Ёсць месцы, якія непасрэдна з'яўляюцца пасткамі. Вызначыць, распазнаць іх, зразумець сутнасць прыцягнення, якое ад іх зыходзіць — гэта, найперш, філасофская задача.

***— Вы лічыце, што адны і тыя ж словы набываюць рознае значэнне ў залежнасці ад месца ці кантэксту, у якім яны былі прамоўленыя ці надрукаваныя?***

— Дакладна так. Гэта ўлада месца. Вось адзін просты прыклад: прамова з ухвалой манархіі, прачытаная ў Стакгольме, будзе мець зусім іншы сэнс, чым, скажам, у Парыжы. Калі б інтэрв'ю, якое я даў на шведскай мове, пераклалі на французскую, дык мае погляды набылі б іншае адценне. Не варта недаацэньваць уладу, якую дае асобная сітуацыя, кантэкст.

Так, дзеля жарту, уявіце, што вы шчыры атэіст, а ўсё жыццё вашым лепшым сябрам быў езуіт. Я запэўніваю вас, што ў апошні дзень вашага жыцця вы павінны забараніць яму прыйсці да вас. Калі вы не зробіце гэтага, дык якімі б ні былі яго ці вашы жаданні і аб чым бы ні вялася размова, візіт езуіта ў такі дзень раўназначны абарачэнню вас у рэлігію на смяротным ложы.

Калі нам прадбачыцца выпрацаваць новыя арыенціры і новыя каштоўнасці, мы павінны быць асабліва ўважлівымі да такіх з'яў. Для некаторых людзей "Заклік да пільнасці" нагадвае 1930-я гады і Народны Фронт. Для мяне відавочна, што гэта менавіта тое, на што павінна быць накіравана праца інтэлекту. Аналізуючы і крытыкуючы, інтэлектуалы прыйдуць да новых адкрыццяў і рашэнняў. У гэтым сэнсе мысленне — нязменная пільнасць, і развагі здаюцца цалкам бяскрыўднымі.

***— Ці не рызыкуем мы заняць пазіцыю татальнай падазронасці, вечнага недаверу і чакання небяспекі адусюль, сталай прысутнасці ва ўяўленні няпраўдзівай пагрозы?***

— Не, проста таму, што межы нецярпімага выходзяць за границы ясна распазнаных парогаў свядомасці. Вазьміце, напрыклад, рэвізіянізм. Кожны сур'ёзны гісторык, ва ўласным значэнні слова, — рэвізіяніст: мэта любога даследавання — выявіць, ці правільна тое, што было сказана пра мінулае, ці яно патрабуе паправак. Ці быў Каціліна ў сапраўднасці такім парсюком, якім яго падае Цыцэрон, ці гэта было вынікам палітычнага клімату таго часу? Ці сапраўды ў Першай сусветнай вайне загінула 600 тысяч італьянцаў? Гісторык мае права даследаваць архівы, ставіцца з недаверам да прапаганды, узнаўляць факты і браць пад сумніў звычныя гістарычныя пастаці.

Я не бачу нічога, што шакіруе, у сур'ёзнай і бясспрэчнай працы, якая сцвярджае, што лік яўрэяў, што загінулі ад нацысцкага генацыду, быў не 6 мільёнаў, а 6,5 ці 5,5 мільёна. Што недазволена, дык гэта тое, калі праца, якая, магчыма, была даследніцкай, страчвае сваё значэнне і каштоўнасць і робіцца проста паведамленнем пра тое, што "калі менш яўрэяў, чым мы думалі, было забіта, значыць, гэта не было злачынствам". Сакрат і Хрыстос памерлі ў адзіноце. Больш за дзве тысячы гадоў пасля іх смерці чалавецтва ўсё яшчэ знаходзіцца ў стане шоку, усё яшчэ пакутуе ад згрызотаў сумлення за злачынствы, якія адабралі іх жыцці.

Яшчэ адзін парог быў пераступлены, калі рэвізіянізм абараціўся ў адмаўленне. Як і ўсякі чалавек майго пакалення, я бачыў арыштаваных, прыніжаных, рэпартаваных яўрэяў. Пасля вайны я быў сведкам слёз тых, хто плакалі, бо яны засталіся адзінымі з сям'і, якая была знішчана. Калі тыя, хто прэтэндуе называцца гісторыкамі, паспрабуюць прымусіць мяне паверыць, што крыжовыя паходы — міф і стварэнне Чырвонага Крыжа, напрыклад... ну, нагул, паколькі гэта адбылося шмат гадоў таму, я, відаць, буду сумнявацца. Але калі мяне спрабуюць прымусіць паверыць, што ніколі не мела месца тое, што я, як і мільёны іншых, бачыў на ўласныя вочы ва ўзросце 13 гадоў, прымушаюць паверыць у гэта маладых людзей, якія нарадзіліся пазней, вось гэта недапушчальна.

Я маю права не запрашаць да сябе тых, хто распаўсюджвае такі тып развагі, і тых, хто іх падтрымоўвае, а таксама права адхіліць іхняе запрашэнне.

***— А калі вам скажуць, што вы нецярпімы?***

— Я адкажу, што дзеля таго, каб быць цярпімым, трэба ўсталяваць межы нецярпімага.

***— Каб усталяваць гэтыя межы, ці не павінны мы авалодаць ісцінай?***

— Не. Справа не ў гэтым. Я не хачу выкарыстоўваць слова "ісціна". Існуюць толькі думкі, адны з якіх больш пажаданыя за другія. Але нельга сказаць: "А калі гэта пытанне выбару перавагі, дык чорт з ім". Жыццё кожнага з нас залежыць ад таго слова, якому мы аддаем перавагу. Чалавек можа памерці за тыя погляды, якім ён аддае перавагу.

***— Якая розніца паміж змаганнем за праўду і барацьбой за тое, чаму мы аддаем перавагу, без якойсьці ўпэўненасці ў сваёй праваце?***

— Калі мы верым у тое, што змагаемся за праўду, дык часам мы дапускаем забойства сваіх ворагаў. Змагаючыся за тое, чаму мы аддаем перавагу, мы можам быць цярпімымі, хоць усё ж і адмаўляючы нецярпімае.

***— Калі існуюць толькі пажаданыя перавагі і няма ісціны, дык якую аснову мы можам знайсці для акрэслення таго, што цярпімае для ўсіх: дзе тое адзінае, што можа падтрымаць увесь свет, незалежна ад культурных, рэлігійных і адукацыйных адрозненняў?***

— Павага да цела. Можна пабудаваць поўную этыку, заснаваную на павазе да цела і ягоных функцый: есці, піць, спаць, займацца любоўю, размаўляць, слухаць і г. д. Абудзіць каго-небудзь уначы, павесіць яго ўніз галавой — гэта форма недапушчальнага катавання. Забараняць іншым рухацца ці размаўляць — гэта, у роўнай ступені, недапушчальна. Згвалтаванне — гэта непавага да цела іншага чалавека. Усе тыпы расізму і выключнасці, у рэшце рэшт, зводзяцца да адмаўлення цела іншай істоты. Можна было б растлумачыць усю гісторыю этыкі ў святле правоў цела і стасункаў нашага цела з астатнім светам.

***— Чаму вы думаеце, што левыя — калі гэты тэрмін яшчэ мае для вас значэнне — не падзяляюць вашы погляды на патрэбу, якую вы лічыце відавочнай, у новай форме пільнасці ў адносінах да сфер уплыву крайніх правых?***

— Я бачу тры прычыны. Першая, у Францыі, як і ў Італіі ці Германіі, датычыць малых груп, якія выраслі з празмернага лявізму. Зямля круглая: немагчыма рухацца увесь час налева. Абавязковы вынік развіцця самых крайніх, самых правакацыйных, самых наватарскіх ідэй да іх лагічнага завяршэння будзе ўяўляць сабой поўны круг і прывядзе да ідэй крайніх правых. Што і адбылося ў некаторых выпадках.

Другая прычына крыецца ў застарэлых догмах ранейшых левых. Гэта быў час, калі любы, хто думаў інакш, чым мы, быў фашыстам. Як рэакцыя на такія межавыя праявы ў мінулым сёння склалася тэндэнцыя працягваць руку любому і не атаясамліваць нашых ворагаў і іхнія сферы дзейнасці. Праўда, трэба мець тонкую і даволі рэдкую здольнасць прызнаваць за нашымі праціўнікамі шчырую веру і магчыма высокародныя матывы. Але, тым не менш, мы ніколі не павінны апраўдваць іх ідэалагічны выбар.

І, нарэшце, Францыя сёння мае асаблівую гістарычную спадчыну. Італія звяла свае рахункі з фашызмам адкрыта. Стала ясна, хто падтрымліваў Мусаліні і хто супрацьстаяў яму. Гэтая тэма была вычарпальна абмеркаваная, і мінулае ўжо не ўтрымлівала двухсэнсоўнасцяў. Насуперак, чытаючы французскую прэсу, я адкрыў для сябе, што дыскусія пра тое, хто быў за і хто быў супраць Вішы, усё яшчэ працягваецца. У шафах французаў яшчэ поўна забытых шкілетаў, чыё паходжанне невядомае. Гэта ўскладняе праблемы, але, магчыма, і тлумачыць іх.

**Пераклад Ганны ТАРАСАВАЙ**
**(Пераклад зроблены па выданні: Index on censorship (The magazine for free speech). 1/2, 1994.)**



# ЧАЛАВЕК, ЯКІ ДАМАЎЛЯЕЦЦА СА СМЕРЦЮ

*(Заканчэнне. Пачатак у № 36.)*

### ... ТАДЫ ТЫ МОЖАШ ВЫКЛІКАЦЬ І КАХАННЕ, І ДОЖДЖ

Паверце — інакш мне трэба будзе доўга тлумачыць падыходы: кожнае чалавечае жаданне можна здзейсніць. Вы пытаецеся, чаму ж яны, жаданні, не здзяйсняюцца? Прырода гатовая матэрыялізаваць усё, што ты хочаш але калі ты ёй моцна перашкаджаеш, супраціўляешся, яна або адсоўвае тэрмін здзяйснення да таго часу, пакуль ты не зробішся разумнейшым, або так і не здолее пераадолець тваё няўменне-нежаданне спраўдзіць сваю мару. Ёсць яшчэ адно, бадай, галоўнае. Яна можа цябе і не пачуць, бо ты "жадаеш" не на яе хвалі — ты чужы. (А калі нарадзіўся, быў "сваім"...) Прыклад? Ты хочаш штодзень есці салодкае, не хочаш чысціць зубы і наведваць стаматолага і — хочаш, каб у цябе не балелі зубы. "Залатая" рыбка вырашыла гэтую праблему па-свойму: у старых павывальваліся ўсе зубы і замест іх з'явілася штучная сківіца.

Цяпер яшчэ адно дапаўненне: лік "дванаццаць" будзем лічыць базавым. Для астролагаў гэта аксіёма. Дванаццацімернае вымярэнне прасторы і часу: дванаццаць знакаў Задыяка, дванаццаць месяцаў у годзе, дзень-ноч — дванаццаць гадзін... Дарэчы, дванаццаць апосталаў, і столькі ж долек у апельсіна... Сітэма "дванаццаці" — самадастатковая. Гэтым лікам можна "вымяраць" любую пабудову і высветліць, наколькі яна дасканалая. Уявіце сабе кола, разбітае на дванаццаць сегментаў-"калідораў". У цэнтры кола — чалавек. Ён можа трапіць у кожны калідор і здзейсніць кожнае жаданне. Над калідорамі (гэта і ёсць чакры — вобласць, якая адказвае за сферы нашага жыцця і нашыя памкненні) — шыльдачкі з назвамі: лідэрства, актыўнасць, грошы, харчаванне, энергетыка, здароўе, сувязі, дом, каханне, шлюб, кантракты, свабода, смерць, падарожжы, філасофія, рэлігія, улада, сябры, планы, адпачынак.

Гэтыя жаданні і віды дзейнасці супрацьстаяць адзін аднаму, але тым самым яны ўраўнаважваюць сістэму. У гэтым коле дыяметральныя адзін аднаму каханне і сяброўства, грошы і свабода, дом і падарожжы, адпачынак і ўлада... І калі мы перамесцімся ў бок кахання, дык можам страціць сяброў, а ў бок улады — пазбавімся адпачынку. Ідзём да грошай — губляем свабоду. І чым далей мы рухаемся, тым больш, набываючы адно, губляем іншае.

Чалавек, у якога шмат жаданняў, нагадвае парусьнік, у якога частка ветразяў пастаўлена "па ветру", а частка — супраць.

Трэба дакладна ведаць, што ты хочаш, патрэбныя цэласнасць і мэтанакіраванасць, гатоўнасць не толькі набыць, але і страціць. І, безумоўна, трэба ведаць, як увайсці ў гэты калідор-чакру. Для таго, каб у мяне з'явілася каханне, мне трэба яго жадаць (гэта стан), а не думаць, што я яго хачу (гэта толькі думка).

І, калі ты зробішся такім, якім прырода хоча цябе бачыць, яна прызнае цябе, і ты для здзяйснення сваіх жаданняў здолееш выкарыстаць усю яе магутнасць, бо ты — частка гэтай прыроды. І тады ты будзеш здольны выклікаць і каханне, і дождж.

### КАНТРОЛЬНЫ ПАКЕТ ВАШЫХ АКЦЫЙ — У СОНЦА

Мы ўсе дзеці Сонца. Яно пазначае нас сваёй фазай у момант нараджэння. У залежнасці ад года, даты, месяца і часу нараджэння будуецца схема вашага лёсу, сыходзячы з 12-метрычнай сістэмы — ваш знак у "коле" Задыяка, ваша галоўная чакра. Ніякіх цудаў. Кантрольны пакет акцый вашага жыцця і яго асноўных якасцяў, цыклаў, фаз — трымае Сонца. Яно "прапісала" ўсіх у пэўных каардынатах, гэта — ваш цэнтр. Навучыцца перамяшчаць яго згодна з вашымі жаданнямі — вось у чым задача чалавека, а мая задача — навучыць і паказаць схему, па якой бяспечна гэта рабіць.

У залежнасці ад знакаў Задыяка мы ўсе глядзім на жыццё з розных бакоў і бачым "галоўнае" — у розным. І ўсе маем рацыю, але аднабакова. Астралогія дазваляе "вандраваць" вакол будынка жыцця і бачыць яго цалкам. Але аддаленасць ад свайго цэнтра ў бок жаданага можа выклікаць шкоду для іншых. Ва ўсіх геніяў "ненармальнасць" — абавязковая. Дзесьці шчодра ліецца, дзесьці — суха. Сухарукі Сталін, усыханне мозга ў Леніна, вар'яцтва і кароткае жыццё вялікіх творцаў мастацтва... Небяспечна заходзіць у пажаданую чакру далей, чым на 15 працэнтаў, бо трэба будзе прыкласці столькі ж намаганняў і часу, каб вярнуцца. А калі пройдзена палова шляху, дык можна і не вярнуцца...

### ПАЛІЎ ДРЭВА — ПАЧАЎСЯ ДОЖДЖ

У 1996 годзе мы займаліся надвор'ем на Беларусі. На самым высокім узроўні мне сказалі: трэба, каб было добрае надвор'е на сеў і на жніво, а цяпер патрэбны дождж. Стаяла спякота. "Трэба наталіць зямлю вадой, аднаго дажджу недастаткова. Здолееце?" "Здолею", — адказаў я.

Мы зрабілі эксперымент. Ён пацверджаны пратаколам камісіі. Выехалі на Гомельшчыну, дзе ўсё было папалена сонцам, і там я запусціў гэтую сістэму. Дождж ішоў цэлы тыдзень. Што значыць "запусціць сістэму"? Гэта значыць — здзейсніць жаданне. Як? Я змяніў сябе на гэты час і ўвайшоў у чакру, якая адказвае за надвор'е. Я зрабіўся Скарпіёнам — чалавекам дажджу: апрануўся ў барвовае і цёмна-зялёнае, узяў з калодзежа ваду, памыў машыну і паліў дрэўца. Хапіла трох вёдраў — і пайшоў дождж. А каб па ўсёй Беларусі прайшоў дождж — трэба са шланга на працягу гадзіны паліваць траву і дрэвы. Калі б я не быў у чакры, я проста б паліваў дрэвы, а ў чакры я з'яўляюся ўжо часткай самой прыроды. Я даю штуршок, адчыняю шлюз.

**— Як вы становіцеся "прыродай"?**

— Я з трынаццаці гадоў жыву вадой, зямлёй, сонцам. Я пачаў іх разумець, а яны — мяне.

**— Што вы для гэтага робіце?**

— Уявіце, што вы хочаце змяніць нешта ў пакоі і пачынаеце цягаць шафы. А вам трэба толькі перасунуць крэсла, на якім вы сядзелі. Змяні сябе ля вытоку на міліметр — ля вусця будзе сто кіламетраў. Я, "пылінка", трапляю ў рэзананс з велізарным прыродным механізмам, і маё мікраскапічнае жаданне атрымлівае магутнасць усёй прыроды. Як вынік — дождж з лейкі ператвараецца ў дождж з хмары.

### Я ДАПАМОГ ЁЙ ДАМОВІЦЦА СА СМЕРЦЮ

Адна жанчына, уладальніца фірмы, была прысуджана крыміналітэтам да пакарання смерцю. Я дапамог ёй увайсці ў чакру смерці і "дамовіцца" з ёй. Калі жанчына пайшла "на спатканне" са сваімі катамі, дык яны нічога не здолелі ёй зрабіць. Як толькі хтосьці з іх спрабаваў забіць яе або нават толькі думаў пра гэта, яго ахопліваў жах, здараўся сардэчны прыступ, дранцвела рука або ён страчваў прытомнасць. Чым большай рабілася агрэсіўнасць, тым большым было супраціўленне. Як бумеранг...

Бяда ж жанчыны была ў тым, што яна не выйшла з гэтай чакры, і смерць зрабілася яе "сяброўкай": яна праследавала яе ў выглядзе галаграмы. Я зноў дапамог ёй, і ўсё скончылася добра.

**— Гэта небяспечна?**

— Веды не могуць быць небяспечнымі. Калі б яна выпадкова трапіла ў гэтую чакру, тады б...

Цяпер я больш займаюся навукай, а раней дапамога людзям была маёй асноўнай дзейнасцю. Ці даводзілася дапамагаць безнадзейна закаханым? Безумоўна. Памятаю, прыйшла адна дзяўчына: "Не кахае..." Я "падлічыў" і сказаў: "Апраніце сінюю сукенку ў жоўты гарошак і — усё будзе ў парадку". Справа ў тым, што яна хадзіла на спатканні ў аддзенні не таго колеру. Ішла "на поўнач", а апраналася, нібыта "на поўдзень". Узнік дысананс, які на атамным узроўні разбураў пачуццё хлопца...

На побытавым узроўні гэтыя рэчы мною апрабаваныя. Для прыватнай асобы, якая мае падобныя праблемы, дастаткова некалькіх гадзін працы. Каб даць сур'ёзную рэкамендацыю буйному палітыку, патрэбна паўгода. Колер адзення і масаж пэўных частак цела — гэта не адзіная ўмова поспеху, але пакуль самая дзейсная. Вельмі важныя таксама месца ў прасторы і час дзеяння. Калі няшчасці пайшлі чарадою, значыць, чалавек "стаміўся" жыць там, дзе ён жыве, або працаваць там, дзе працуе. "Падобнае прыцягвае падобнае". І наадварот. Калі пайшла ўдача — трапіў у "сваё"! — дык толькі падстаўляй мех! Кажуць, чалавеку шанцуе. Не, не шанцуе, а проста ён "стаў на свае рэйкі".

Жаданне, удача — гэта шпак. Калі ты правільна збудаваў шпакоўню і правільна прыбіў яе да дрэва — птушка абавязкова прыляціць.

### МЭТА ЖЫЦЦЯ — У САМІМ ЖЫЦЦІ

**— Вы багаты?**

— У мяне ўсё нармальна. На хлеб-соль, кватэру і адзенне хапае. Грошы для мяне не мэта, але і не праблема. Дваццаць хвілін масажу — і сто долараў, няхай на вуліцы, але знайду. Мая праца цяпер добра аплачваецца. Мы з вамі размаўлялі пра ўзроўні — гэта шлях чалавецтва. А кожны бізнесмен, група банкіраў, або дзяржаўная структура хочуць ведаць "свой шлях". Я пралічваю ім гэта — яны мне плацяць. Дарэчы, я шмат працаваў з заможнымі людзьмі — сярод іх няма шчаслівых. У сваім імкненні зарабіць грошы наш айчынны бізнесмен часта адыходзіць ад усяго чалавечага. Ён робіцца не зусім чалавекам, нібыта цвікі забівае камп'ютэрам.

Чалавек прыйшоў у гэты свет разам з прыродай, ён — яе частка. І мэта жыцця — у самі жыцці, а не ў прыбытку. Бізнесмены зрабілі сваё жыццё дапаможнай прыладай у набыцці грошай і тым самым сказілі сутнасць жыцця. Яны жывуць на першым узроўні. Яны — яшчэ "мёртвыя".

**— А вы на якім узроўні знаходзіцеся?**

— На трэцім. Знаёмлюся з чацвёртым.

* * *

Мы развіталіся. Ён пайшоў сустракаць жонку, а ўвечары павінен быў адлятаць у Маскву: група банкіраў запрасіла папрацаваць над прагнозам паводзінаў курса долара. Абяцаў патэлефанаваць...

**Занатаваў Навум ЦЫПІС**

**P.S.** Патэлефанаваў. "Калі дасюль я лічыў працу з валютнымі сістэмамі тэарэтычнай, дык цяпер тэорыя атрымала практычнае пацвярджэнне. "Паводзіны" долара я магу прадказаць з дакладнасцю да гадзіны. Верагоднасць — да 70-80 працэнтаў..." Пытанняў з гэтай нагоды я задаваць не хацеў. "Паводзіны" долара на Беларусі і без таго зразумелыя...

**Н.Ц.**

КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон/факс: (017) 276-94-66

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3390.

Падпісана ў свет 17.09.97. у 16.30.

Замова 5693.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**